Адна зямля
Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Ашм
Маладзечна
Валожын
Мінск

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

19 чэрвеня 2015 года №25 (1051)

“РГ” зладзіла свята для дзяцей з кепскім зрокам
старонка 2

Работнікі ЗМК водзяць сем’і есці ў заводскую сталоўку
старонка 3

Выкупалі ў ванне з сярэбраным медалём – атрымала залаты
старонка 5

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### “Камарова-кола дзён” збярэ майстроў

МЯДЗЕЛ

У вёсцы Камарова на Мядзельшчыне 20 чэрвеня пройдзе традыцыйнае свята “Камарова – кола дзён”. Збяруцца майстры з Мінскай, Віцебскай і Гродзенскай абласцей. Пачатак свята – у 11:30, паведаміла бухгалтар цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцтва “Камарова” **Наталля Нагорная**. На тэрыторыі сядзібна-паркавага комплексу адбудзецца выстава-кірмаш, умельцы пакажуць майстар-класы. Завяршыцца ўсё дыскатэкай і феерверкам.

### Праходзіць конкурс графіці

ВІЛЕЙКА

Пачаўся раённы творчы конкурс графіці на тэму “Мір у нашых руках”. У конкурсе можа удзельнічаць ад 14 да 31 года. Прымаюцца калектыўныя і індывідуальныя заяўкі, расказала галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама **Вераніка Гайчук.** Конкурс праходзіць у два этапы. Ад 16 да 22 чэрвеня можна падаваць эскізы на паперы фармату А4 па адрасе: *Вілейка, вуліца Партызанская, 40, будынак райвыканкама, кабінет №13 або №12.* На другім этапе ў Дзень моладзі, 28 чэрвеня, канкурсанты створаць малюнак на сцяне будынка па вуліцы Камсамольскай. Даведкі па тэлефонах: **(8-01771) 5-60-89, 5-38-49.**

### У ліпені пройдзе велаквэст

МАЛАДЗЕЧНА

Ён пачнецца 5 ліпеня ў 11 гадзін дня. Падчас квэсту ўдзельнікам прапануюць заданні, якія будуць выконваць на роварах у межах горада. Удзельнікі змогуць праверыць веданне Маладзечна, дазнаюцца цікавыя факты пра горад, пазнаёмяцца з раварысцамі-аднадумцамі. Для ўдзелу ў квэсце каманды могуць зарэгістравацца загадзя ў суполцы ў сацыяльных сетках. Падрабязней чытайце на сайце rh.by.

**Алесь ВЫСОЦКІ, Воля ТРУБАЧ.**

# З даху маладзечанскай бібліятэкі ўпаў рабочы

МАЛАДЗЕЧНА

**У чацвер, 11 чэрвеня, пры правядзенні мантажных работ у Цэнтральнай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча з даху ўпаў рабочы.**

Рамонтнымі работамі ў бібліятэцы займаецца ПМК-212.

Галоўны інжынер прадпрыемства **Андрэй Вайшнаровіч** пацвердзіў, што такая надзвычайная сітуацыя здарылася:

– Рабочаму 36 гадоў, працуе ў нас стропальшчыкам. Ён знаходзіцца ў бальніцы ў цяжкім стане.

У гарадской бальніцы намеснік галоўнага доктара па медыцынскай частцы **Ігар Салагуб** адказаў, што мужчына знаходзіцца ў рэанімацыі з траўмай шыйнага аддзела пазваночніка і з траўмай селязёнкі.

Следчы камітэт і інспекцыя па ахове працы праводзяць праверку.

Начальнік аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы **Дзяніс Тамашаў** расказаў “Рэгіянальнай газеце”, што гэта ўжо шосты няшчасны выпадак на вытворчасці ў Маладзечанскім раёне.

Да гэтага здараліся траўмы з работнікам ММЦ, з работнікам водаканала, з работніцай “Сасноўка-АГРА”, два выпадкі траўмавання на вытворчасці былі ў Хоўхлаве.

– Добра, што сёлета абыходзімся без смяротных выпадкаў, у 2014 годзе такіх было два.

Што датычыцца пакарання ў сітуацыі з работнікам ПМК, то мы адназначна выключаем тое, што вінаваты сам работнік. Да адказнасці будуць прыцягнутыя яго наймальнікі, – адказаў Дзяніс Тамашаў.

**Аляксей Гурко** працуе прарабам на капітальным рамонце будынка суда ў Маладзечне.

Пра тое, што здарылася ў бібліятэцы, ён кажа, што не чуў. Але за сваімі работнікамі сочыць пільна:

– Мы самі ўвялі меру пакарання для тых, хто не выконвае тэхніку бяспекі. Самы дзейсны сродак у гэтай барацьбе – пакаранне рублём. Прыступіў да працы без каскі – пакладзі на стол 300 тысяч, прыйшоў другі раз – будзь добры, развітайся з мільёнам. Трэцяга разу ў нас яшчэ ні разу не было.

**Наталля ТУР.**

Фота Наталлі ТУР.

Сяргей Завадскі працуе фасадчыкам на рамонце будынка суда ў Маладзечне. І тэхніку бяспекі імкнецца выконваць. Пра тое, чаму ён без страхавачнага пояса, адказаў, што толькі скончыўся абед і не паспеў яго надзець.

АКЦЫІ

# "РГ" зладзіла свята для дзяцей са слабым зрокам

МАЛАДЗЕЧНА

**Мерапрыемства правялі ў панядзелак, 15 чэрвеня, у школе-інтэрнаце №2 для дзяцей з парушэннямі зроку.**



Выхаванцы школы-інтэрната шчыра дзяліліся сваімі жаданнямі, ахвотна ўдзельнічалі ў конкурсах і моцна радаваліся падарункам.

Мы спецыяльна запрасілі госця – выкладчыка музычнага каледжа імя Агінскага **Аляксандра Еўдакімава**. Аляксандр страціў зрок у дзесяць год, але гэта ніяк не перашкодзіла атрымаць вышэйшую адукацыю і стаць выдатным прафесіяналам. Да таго ж, ён спрычыніўся да стварэння спецыяльнага дадатку для невідушчых – Blind droid wallet, які дапамагае распазнаваць розныя валюты.

Аляксандр прадэманстраваў дадатак для дзяцей. У выхаванцаў школы-інтэрната розная ступень парушэння зроку, і нават калі ім не спатрэбіцца сам дадатак, то прыклад моцнага і смелага чалавека можа стаць для іх крыніцай натхнення.

Першым заданнем для выхаванцаў стала знаёмства. Па чарзе кожны не толькі казаў сваё імя, але і называў сваё жаданне. Некаторыя гаварылі пра прафесіі, якімі хочуць авалодаць: масажысткі, медсястры, касманаўта, цырульніцы. Іншыя мараць пра летняе падарожжа ў летнік ці за мяжу. Удзельнічалі тыя, чыім жаданнем былі тэлефон, ровар ці мячык.

Пасля мы правялі лёсаванне: трэба было выбраць адну з трох відаў цукерак, каб падзяліцца на каманды. Кожная з камандаў павінна была як мага хутчэй запоўніць аркушы запісамі пра сябе – адным словам ахарактарызаваць, які ты. Сярод запісаў: "я самы добры", "я самы хітры", "Саша назіральны", "Таня кволая", "я неадказная" і нават "вы самыя цудоўныя".

А пасля кожная з камандаў павінна была інсцэніраваць без слоў адну з трох казак: "Рэпку", "Церамок", "Курачку-Рабу", а астатнія здагадвацца, якую казку паказваюць.

Самым складаным заданнем стала віктарына, у якой арганізатары задавалі пытанні пра беларускую культуру. Тым не менш, дзеці адгадалі, што кампазітар, якому сёлета 250 год – Агінскі, што самая вялікая рака Беларусі – Днепр, што трэці месяц восені пабеларуску – лістапад. Назвалі некалькі пісьменнікаў, якія жылі на Маладзечаншчыне.

Не прыгадалі толькі, што заснавальнік беларускага прафесійнага тэатра – **Ігнат Буйніцкі**, затое ўзамен адказалі, што беларускі лялечны тэатр – батлейка. Складана было прыгадаць і маладзечанскіх спартсменаў, затое хорам назвалі трохразовую алімпійскую чэмпіёнку **Дар'ю Домрачаву** і самую вядомую плыўчыху Беларусі **Аляксандру Герасіменю**.

Дзеці не засталіся без падарункаў.

На развітанне яны запрашалі ў госці яшчэ. І не абавязкова з падарункамі, але і проста так.

Мерапрыемства правялі журналісткі "РГ" **Зоя Хруцкая і Наталля Тур**, а таксама галоўны рэдактар **Аляксандр Манцэвіч**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Шмат фота глядзіце на сайце**

**Rh.by**

МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# Вяскоўцы сабралі грошы і ўсталявалі мемарыяльны помнік у Новай Гуце

ВІЛЕЙКА

**У суботу, 13 чэрвеня, адкрылі мемарыяльную дошку ў памяць аб загінулых жыхарах вёскі Новая Гута.**




Падчас адкрыцця помніка ў Новай Гуце. Злева Алесь Раткевіч.

Адкрывалі памятную дошку старэйшыя жыхары вёскі: **Ванда Уладзіміраўна Масальская, Алена Уладзіміраўна Завадская, Елізавета Станіславаўна Мікуліч.**

На вясковым сходзе было вырашана ўсталяваць з нагоды 70-годдзя вызвалення вайны памятную дошку жыхарам Новай Гуты, якія загінулі ад 1939 да 1945 года. Вельмі хутка змаглі сабраць грошы на выраб дошкі і яе ўсталяванне.

Адказнасць за падрыхтоўку ўзяў на сябе актыўны мясцовы жыхар **Алесь Раткевіч**.

Знайшліся аднадумцы і неабыякавыя да нашай гісторыі людзі, якія дапамаглі Алесю Раткевічу ў гэтай справе. Сярод іх старшыня Хаценчыцкага сельсавета **Святлана Валовік**. Прымалі ўдзел ва ўсталяванні вяскоўцы, **Аляксандр Жалянгоўскі** з Радашкавічаў, мінчук **Мікалай Несцярэнка.**

Пліта зробленая на сабраныя сродкі вяскоўцаў. Яе вырабіў майстра з Маладзечна **Генадзь Шурпік**. Абрамленне да яе выканаў Беларускі саюз суворачаў і кадэтаў пад кіраўніцтвам намесніка старшыні саюза, кандыдата юрыдычных навук, дацэнта кафедры БДУ Максіма Місько.

Усталявалі пліту на пні спілаванай трохсотгадовай дзікай грушы. Гэты пень жывы, дае парасткі, на наступны год будзе ўвесь у зелені.

Арганізатары выказваюць удзячнасць усім аднадумцам, якія дапамаглі фізічна і матэрыяльна.

**Дзяніс КАНЕЦКІ, кіраўнік вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.**



ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

# Віляйчанін Павел Хаванскі "Мова плюс цікавы матэрыял – гэта вельмі файна"

ВІЛЕЙКА

**Пра тое, што чытае ў газеце і за што дзякуе калектыву, расказвае сябра краязнаўчага выдання "Волат" і вілейскай суполкі таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Павел Хаванскі:**

– Першае знаёмства з "Рэгіянальнай газетай" было ў школе, бацька выпісваў. Раней часцей набываў газету, цяпер – больш у інтэрнэце чытаю, але бацька ці маці купляюць.

Самыя любімыя мае матэрыялы ў газеце – краязнаўчыя і спартыўныя. Зараз яшчэ да іх далучыліся артыкулы **Волі Трубач** пра падарожжы.

Бацька ж чытае газету ад першай да апошняй старонкі. А маці падабаюцца краязнаўчыя матэрыялы і гісторыі з жыцця.

На мой погляд, ад іншых выданняў "Рэгіянальная газета" адрозніваецца цікавай падачай матэрыялу і беларускай мовай. Лічу "Рэгіяналку" лепшай у нашым рэгіёне. Артыкулы напісаныя па-людску і для людзей. За беларускую мову вялікі дзякуй. Мова плюс цікавы матэрыял – гэта вельмі файна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПАСАДЫ

# У Маладзечанскага малочнага камбіната новы дырэктар

МАЛАДЗЕЧНА

**Ім стаў Дзмітры Кандрашоў. Ён пачаў працаваць ад 9 чэрвеня.**

Як пісала "Народная газета", Дзмітры Кандрашоў скончыў Беларускую сельгасакадэмію. Працаваў дзяржаўным падатковым інспектарам, галоўным кантралёрам-рэвізорам, галоўным спецыялістам рэвізійнага аддзела дзяржаўнага вытворчага аб'яднання "Мінгархарчпрам", намеснікам генеральнага дырэктара Мінскага малочнага завода №1. Ад верасня 2010 года ўзначальваў філіял ААТ "Здравушка-Мілк" у Беразіно.

Былому дырэктару **Уладзіміру Бобрыку** не працягнулі кантракт. Ён узначальваў прадпрыемства 24 гады.

Пра гэта нам расказалі ў аддзеле кадраў.

**Аддзел інфармацыі**

● ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Работнікі ЗМК у сталовую ходзяць сем’ямі

МАЛАДЗЕЧНА

**У сталовай завода абеды адпускаюць па прапусках. Пазначаюць нумар пропуска і потым вылічваюць суму з заробкаў. На абед некаторыя ходзяць ужо сям’ёй, каб паесці ў доўг. І на вечар, каб не хадзіць у магазін, бяруць у сталоўцы булачкі і беляшы.**



Фота Наталлі ТУР.

Комплексны абед у сталовай завода каштуе прыкладна 20 тысяч рублёў.

– Мы для сваіх сем’яў сталі абузай з-за таго, што каторы месяц не прыносім дамоў заробак, – гавораць рабочыя ЗМК, якія стаміліся ад пустых абяцанняў кіраўніцтва і ў панядзелак, 8 чэрвеня, выйшлі на забастоўку.

Тады кіраўніцтва завода абяцала да пятніцы выплаціць 50% заробку за красавік.

Мы сустрэліся з рабочымі ў пятніцу,12 чэрвеня, каб спытацца ў іх, ці выканала кіраўніцтва абяцанні і чаго яны чакаюць ад працы на заводзе надалей.

– Грошы пералічылі ў чацвер пасля 10 вечара. Да панядзелка абяцаюць выплаціць астатняе. Калі гэта абяцанне не выканаюць, мы зноў спынім працу.

На заводзе карэспандэнты “Рэгіянальнай газеты” сталі сведкамі дыялога паміж рабочымі і канструктарамі:

– Калі вы будзеце баставаць у панядзелак, дайце знаць і нам. Мы не хочам заставацца ў баку.

І рабочыя, і канструктары адзінагалосна пагаджаюцца, што ад звальнення многіх стрымліваюць інтэрнаты і тое, што вельмі цяжка знайсці іншую работу.

– Асабліва цяжка тым, хто на заводзе працуе сем’ямі, а такіх тут многа, – адказваюць рабочыя.

Прафсаюз адмаўляе з матэрыяльнай дапамогай зусім.

– А калі мая жонка пайшла ў дэкрэт, – кажа адзін з работнікаў, – нават дапамогу на дзіця выплацілі не адразу, а толькі пасля скаргаў.

– А што загадаеце рабіць нам з разліковымі лістамі? Хадзіць у магазін з імі? І прасіць прадаваць прадукты “на вэксаль”, як гэта робяць у нас у сталовай.

8 чэрвеня, у дзень забастоўкі, кажуць рабочыя, хадзілі да кіраўніцтва завода:

– На нас там паглядзелі, як на мурзатых іншапланецян. Тады сталі тэлефанаваць на ўсе магчымыя “гарачыя” лініі. Але ніхто нідзе не браў трубку, акрамя інспекцыі па працы.

– Асабліва крыўдна, што кіраўніцтва завода назвала нашу адмову працаваць без грошай “сустрэчай з працоўным калектывам”.

Адзіным выйсцем з такога становішча рабочыя бачаць у змене кіраўніцтва:

– Надакучыла слухаць казачнікаў!

## Намеснік дырэктара: дай бог, каб новае кіраўніцтва праблемы вырашыла

Намеснік генеральнага дырэктара па ідэалогіі **Аляксандр Саўчыц** не адмаўляецца ад таго, што становішча на заводзе не простае. І праблемы рабочых ён разумее:

– Канешне, мы будзем імкнуцца выплаціць даўгі па заробках. Вельмі спадзяюся на тое, што да панядзелка ўдасца выплаціць хаця б 10-20% заробку ІТР. Але гаворка ідзе пра красавіцкія заробкі, што будзе з заробкамі за май, я не ведаю. Грошай няма.

**Сёння даўгі па банкаўскіх крэдытах складаюць 54 мільярды рублёў, за электрычнасць прадпрыемства вінаватае 4 мільярды рублёў.**

Але ў завода ёсць і неспагнаныя даўгі. Адзін з такіх даўжнікоў – Смаргонскі трэст №41, які заказаў будаўніцтва птушкафабрыкі. Трэст вінаваты заводу 3 978 612 775 рублёў. Гэтага доўгу хапіла б, каб выплаціць заробкі за красавік і яшчэ пагасіць 800 мільёнаў доўгу за электрычнасць.

Апошні буйны аб’ект, на які працаваў ЗМК, была мінская “Чыжоўка-арэна”, якая будавалася да чэмпіянату свету па хакеі.

Цяпер, кажа Аляксандр Саўчыц, заказаў няма. І завод працуе на 5-10 % сваёй магутнасці.

Спадзяваўся завод на буйны заказ ад “Беларуськалія”. Але пакуль яго адклалі да восені. Яшчэ зімой намеснік генеральнага дырэктара па камерцыі і эканамічных пытаннях завода **Дзмітры Купрыянаў** гаварыў у інтэрв’ю “РГ” пра тое, што завод будзе пастаўляць на Літву каля тысячы тон прадукцыі. Аднак сёння лёс гэтага заказу для карэспандэнтаў “РГ” невядомы.

– Цяпер расіяне хочуць даваць заказ на 2 тысячы тон, але, даведаўшыся, што ў нас адбываецца, заключаць дагавор не спяшаюцца, кажуць: “А раптам вы ненадзейныя і заказ не выканаеце”.

На пытанне, ці зменіцца сітуацыя на заводзе з прыходам новага кіраўніка, Аляксандр Саўчыц адказаў:

– Дай бог, каб змянілася. Хаця справа ж не ў кіраўніцтве. Сітуацыя зменіцца тады, калі ўваскрэсне Расія, адзіны пакуль рынак збыту.

Хто стане новым кіраўніком завода, пакуль дакладна не вядома.

Аляксандр Саўчыц кажа, што ім стане **Алег Мазура**, цяперашні начальнік навукова-тэхнічнага цэнтра БЕЛАЗА з Жодзіна. Плануецца, што на наступным тыдні цяперашні генеральны дырэктар завода **Міхаіл Ангерчык** перадасць яму свае паўнамоцтвы.

## Пасля візіту Сямёна Шапіры работнікам выплацілі зарплату цалкам у пятніцу

Як паведамілі карэспандэнтам “РГ” работнікі завода, ІТРы атрымалі заробак цалкам у пятніцу вечарам.

Такім чынам, работнікам выплацілі заробак за красавік. Як будуць плаціць за май, пакуль невядома.

Пра тое, што старшыня Мінаблвыканкама Сямён Шапіра ў пятніцу наведаў завод, “РГ” пацвердзіў намеснік генеральнага дырэктара па ідэалогіі Аляксандр Саўчыц.

**Наталля ТУР, Зоя ХРУЦКАЯ.**



ЛІЧБА НУМАРА

**34 046 325 рублёў**

складае сукупны дзяржаўны доўг на аднаго чалавека

* па дадзеных на 17 чэрвеня

Паводле koshturada.by

Інфографіка Наталлі ТУР.

| Курсы валют НБ РБ | 11.06 | 18.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 14 912,00 | **15 461,00** |
| Еўра | 16 324,00 | **17 421,00** |
| Злоты | 3 962,01 | **4 181,44** |
| Расійскі рубель | 279,12 | **285,50** |
| Грыўня | 705,89 | **701,00** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 17.06** | | |
| Еўра | 14850/15050 | **17280/17550** |
| Долар ЗША | 16320/16800 | **15370/15550** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 10.06 | 17.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139 900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 55 800 | **54950** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 27 800 | **27800** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 80 000 | **80000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39 800 | **37300** |
| Селядзец, 1 кг | 45 000 | **45000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 108 000 | **115000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 11 000 | **11700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12 000 | **12900** |
| Алей “Дзіўны”, 1 л | 18 000 | **18500** |
| Маянэз, 200 г | 4 900 | **4900** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 9 800 | **14500** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 35 000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12 900 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 10 000 | **11500** |
| Капуста, 1 кг (свежая) | 9 500 | **8500** |
| Морква, 1 кг | 16 500 | **19500** |
| Буракі, 1 кг (свежыя) | 15 000 | **16000** |
| Лімоны, 1 кг | 24 000 | **29900** |
| Апельсіны, 1 кг | 21 500 | **18500** |
| Мандарыны, 1 кг | 27 000 | **29900** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 35 000 | **32000** |
| Ківі, 1 кг | 15 000 | **39500** |
| Нектарын, 1 кг | 35 000 | **46500** |
| Абрыкос, 1 кг | 45 000 | **39900** |
| Клубніцы, 1 кг | 50 000 | **25000** |
| Чарэшні, 1 кг | 43 000 | **43000** |
| Памідоры, 1 кг | 19 000 | **18500** |
| Агуркі, 1 кг | 7 000 | **6900** |
| Перац, 1 кг | 47 000 | **45000** |
| Вінаград, 1 кг | 44 900 | **35000** |
| Бананы, 1 кг | 19 500 | **19900** |
| Яблыкі, 1 кг | 15 900 | **15900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 39 900 | **29500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 50 000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 13 000 | **11900** |
| Сала, 1 кг | 90 000 | **90000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55 000 | **60000** |




Жанчына паспела патэлефанаваць сяброўцы, якая пазваніла ў міліцыю. Дзякуючы гэтаму гвалтаўніка атрымалася затрымаць.

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Гвалтаўніка асудзілі да 13 год пазбаўлення волі

ВІЛЕЙКА

**19 мая ўступіў у законную сілу прыгавор суда ў дачыненні да 36-гадовага грамадзяніна Расійскай Федэрацыі.**

Ён згвалтаваў жыхарку Вілейкі і здзейсніў іншыя гвалтоўныя дзеянні сэксуальнага характару.

Адбылося гэта 31 кастрычніка 2014 года ўвечары ў лясным масіве Вілейкі.

Тады "Рэгіянальная газета" пісала, што дапамог затрымаць мужчыну тэлефонны званок: "Маладая жанчына ішла з працы дадому. У зацішным месцы заўважыла, што за ёй сочыць мужчына. Расказала па мабільным тэлефоне пра свае падазрэнні сяброўцы, а неўзабаве тая пачула ў трубцы крык.

Сяброўка патэлефанавала ў міліцыю. Супрацоўнікі мясцовага райаддзела ўнутраных спраў затрымалі 36-гадовага мужчыну. Ён сілай ужо адвёў жанчыну ў іншае месца".

## Сваёй віны не прызнаваў

Суд Вілейскага раёна Мінскай вобласці вынес прысуд 20 сакавіка. Мужчыну асудзілі да 13 год пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

– У судовым пасяджэнні абвінавачаны сваёй віны ў здзяйсненні злачынстваў не прызнаваў, – расказала вядучы спецыяліст суда Вілейскага раёна **Таццяна Ткачова**. – Аднак судовай калегіяй па крымінальных справах Мінскага абласнога суда скарга абвінавачанага пакінутая без задавальнення і прыгавор суда ўступіў у законную сілу.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗДАРЭННІ

## Капаў чарвякоў на беразе Вілейскага вадасховішча, і знайшоў гранату

ВІЛЕЙКА

У гарадскі аддзел міліцыі №1 Фрунзенскага раённага ўпраўлення ўнутраных спраў сталіцы звярнуўся 39-гадовы мінчанін. Раказаў пра тое, што знайшоў на беразе Вілейскага вадасховішча прадмет, падобны на гранату. Мужчына патлумачыў, што наткнуўся на незвычайны прадмет, калі капаў чарвякоў для рыбалкі, паведамляе 10 чэрвеня прэс-афіцэр Фрунзенскага РУУС **Веранiка Стрэльская.**

Сапёрна-піратэхнічная група ідэнтыфікавала прадмет як гранату Ф-1 часоў Вялікай Айчыннай вайны. Граната аказалася без узрывальніка. Яе вывезлі на палігон і знішчылі.

## Жанчыне прапанавалі купіць хусткі і скралі грошы

МЯДЗЕЛ

Раніцай 10 чэрвеня да 80-гадовай пенсіянеркі з вёскі Сяляткі Занарацкага сельсавета завіталі чатыры жанчыны.

Яны пыталіся, ці ёсць старыя рэчы і метал на продаж. Прапанавалі набыць у іх хусткі. У той час, як адцягнулі ўвагу жанчыны на тавар, адна з названых гасцей зайшла ў сярэдзіну дома.

Пасля візіту жанчына праверыла свае зберажэнні. Зніклі восем мільёнаў рублёў, якія захоўвала пад матрацам, расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Міхаіл Сакалдынскі.**

Як мяркуецца, з'ехалі жанчыны на аўтамашыне ВАЗ белага колеру. Іх шукаюць.

## Ля Вілейкі спынілі мікрааўтобус са спіртам. У Маладзечне знайшлі яшчэ

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Паблізу вёскі Ручавыя ля Вілейкі 12 чэрвеня супрацоўнікі дзяржаўтаінспекцыі і групы па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Вілейскага РАУС спынілі мікрааўтобус "Фольксваген".

У ім перавозілі больш за чатыры з паловай тысячы літраў спірту расійскай вытворчасці без акцызных марак Беларусі.

Кіраваў мікрааўтобусам 26-гадовы жыхар вёскі Рагазы Маладзечанскага раёна. Мужчыну ў 2011 годзе прыцягвалі да адказнасці за захоўванне спіртаўтрымальнай прадукцыі, распавёў старшы оперупаўнаважаны па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Вілейскага РАУС **Вадзім Кляпец**.

Потым у гаражы ў Маладзечне маладзечанскія праваахоўнікі дадаткова канфіскавалі больш за 1800 літраў спірту і 61 літр расійскай гарэлкі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ліпа ўпала на дом пенсіянеркі

АШМЯНЫ

14 чэрвеня ўвечары ў вёсцы Габрыялаўшчына Ашмянскага раёна разгулялася непагадзь.

78-гадовая мясцовая жыхарка ў гэты час знаходзілася ў сваім доме. За лівнем і громам яна не адразу зразумела, што на дах звалілася старая ліпа. Неўзабаве са столі палілася вада. Гаспадыня пачала збіраць ваду. Калі выйшла ў двор, убачыла, што дрэва вывернутае з коранем.

Пенсіянерка патэлефанавала дачцэ ў райцэнтр, а тая – у службу "101".

Выратавальнікі з бліжэйшага паста вёскі Навасады распілавалі дрэва і па частках прыбралі яго з хаты. Работы доўжыліся каля дзвюх гадзін.

З-за падзення дрэва пашкоджаны дах жылога дома на плошчы 15 квадратных метраў. Пацярпелых людзей няма.

Пашкоджанаму даху цяпер патрабуецца рамонт, а пенсіянерка часова будзе жыць у Ашмянах у дачкі.

Лівень з парывамі ветру доўжыўся каля дзесяці хвілін. У вёску таксама была накіравана брыгада раённых электрасетак і пагрузчыкі.

Спецыялісты правялі расчыстку сельскай дарогі, на якую ўпалі больш за два дзясяткі старых дрэў, аднавілі пашкоджаныя лініі электраперадач.

**Паводле mchs.gov.by**

ЗДАРЭННІ

## На Вілейшчыне жанчына ўдарыла сужыцелька нажом

ВІЛЕЙКА

Увечары 8 чэрвеня 53-гадовая жанчына ўдарыла нажом у грудзі свайго сужыцелька. Адбылося гэта падчас бытавой сваркі ў вёсцы Ерхі.

Адразу 46-гадовы мужчына па медыцынскую дапамогу не звярнуўся. Назаўтра стала горш. Яго са свайго дома з пранікальным раненнем грудной клеткі даставілі ў Вілейскую цэнтральную раённую бальніцу і шпіталізавалі. Адтуль каля пяці гадзін вечара і паведамілі ў міліцыю.

Узбудзілі крымінальную справу за наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання, расказаў начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**. Жанчыну затрымалі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Затрымалі за захоўванне парнаграфічных ролікаў

ВАЛОЖЫН

Валожынец цягам некалькіх год захоўваў парнаграфічныя ролікі на сваёй старонцы "Укантакце". Цяпер за гэта яму пагражае да чатырох год зняволення.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" паведаміў старшы следчы Валожынскага РАСК **Аляксандр Шульга.**

– Супрацоўнікі міліцыі перыядычна маніторалі сацыяльныя сеткі, – прыкаментаваў следчы. – Пры адным з такіх маніторынгаў трапілі на хлопца, жыхара Валожына. Ён цягам некалькіх год дадаваў у свае відэазапісы 12 ролікаў парнаграфічнага зместу.

Аляксандр Шульга нагадаў, што за захоўванне матэрыялаў парнаграфічнага зместу прадугледжаная крымінальная адказнасць.

**Наталля ТУР.**

## Затрымалі нецвярозага кіроўцу

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося 18 мая ў Івянцы.

44-гадовы кіроўца працуе ў Стаўбцоўскім раёне. У час затрымання ён павінны быў знаходзіцца на працы.

18 мая ён быў затрыманы паўторна.

– Кіроўца заплаціць штраф, а яго аўтамабіль "Опель-Вектра" канфіскаваны ў даход дзяржавы, паведаміў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага РАСК **Уладзімір Падарэцкі.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Скраў каньяк і тут жа разбіў бутэльку

МАЛАДЗЕЧНА

26-гадовы зламыснік скраў 6 чэрвеня з магазіна бутэльку каньяку, які каштаваў 144 тысячы рублёў. Калі ўцякаў з ёй, бутэлька выпала з рук і разбілася.

Ахоўнік крамы выклікаў міліцыю. Супраць хлопца, які раней ужо быў судзімы, узбуджана крымінальная справа.

**Паводле uvd-mo.gov.by.**

## У Вілейцы гарэла лазня

ВІЛЕЙКА

Каля чатырох гадзін ночы 7 чэрвеня ў цэнтр аператыўнага кіравання райаддзела па надзвычайных сітуацыях паведамілі пра загаранне лазні ў Вілейцы на 2-м Нарачанскім завулку.

На момант прыбыцця выратавальнікаў лазня гарэла адкрытым полымем.

У выніку пажару агонь знішчыў дах драўлянай лазні, яны выгарала ў сярэдзіне. Таксама знішчаны дах хлява, які знаходзіцца за пяць метраў ад лазні.

Прычына пажару высвятляецца.

**Яўген КАМАРОЎ,**
**інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС.**

# Выкупалі ў ванне з сярэбраным медалём – атрымала залаты

МАЛАДЗЕЧНА

**Тры гісторыі выпускніц, якія скончылі школу з залатым медалём. Выпускніца 1993 года і дзве выпускніцы 2015 дзеляцца сваімі гісторыямі.**

## Туфлі на выпускны падбіраў сябар

Залатая медалістка гэтага года выпускніца школы №2 **Настасся Арцюкевіч** расказала, што выдатніцай у школе была заўсёды:

– Але "батанікам" ніхто мяне не называў, з аднакласнікамі я сябравала.

Старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец**, калі ўручаў медаль, спытаўся, куды Настасся будзе паступаць, калі не сакрэт:

– Я адказала, што ў медыцынскі. Бо мару пра гэта з дзяцінства.

**Залаты медаль робяць з тампака – сплаву медзі і цынку.**

Прыемным бонусам ад атрымання залатога медаля, дзеліцца Настасся, стала нават не запрашэнне паступаць у педагагічны ўніверсітэт, якое падарылі кожнаму медалісту, а пуцёўка на мора, якую падарылі бацькі:

– Яшчэ падарылі ровар і мама сказала: "Чакай яшчэ сюрпрыз ад нас".

Выпускнога вечара Настасся чакала і рыхтавалася да яго старанна.

Сукенку выбрала белую, а чырвоныя аксесуары да яе – клатч, туфлі – дапамагаў выбіраць сябар. Хлопец хацеў, каб чырвоны колер Настасіных туфляў пасаваў яму пад ярка-чырвоны гальштук-матылёк.

Выпускная ноч запомніцца Настассі назаўжды:

– Світанак мы хадзілі сустракаць за горад. Вярталіся дадому па цюрлёўскай шашы і спявалі песню: "Спасибо скажем родителям, ангелам нашим хранителям"...

У сям'і Настасся першая медалістка.

– Калі мама заканчвала школу, закахалася ў тату. Якая тут ужо вучоба была?

## Мама атрымала сярэбраны медаль, а я – залаты

– Вось і не вер у прыкметы, – кажа **Ганна Бондар**, залатая медалістка гэтага года, выпускніца школы № 7. – Калісьці гаварылі, што, каб дзіця расло разумнае, трэба выкупаць яго ў ванне са срэбрам. Мае бацькі так і зрабілі. Апусцілі ў ваначку сярэбраны медаль маёй мамы. Вось выгадавалі залатую медалістку.

Акрамя Ганны, залатыя медалі атрымалі яшчэ шэсць яе аднакласніц.

Фота Наталлі ТУР.

Ганна Бондар трымае ў правай руцэ сярэбраны медаль маці, у левай – свой, залаты.

– Медалі атрымалі заслужана, – кажа Ганна, – бо ўсе дзяўчаты разумніцы і прыгажуні. Я сама ў захапленні ад сваёй аднакласніцы **Паліны Мікульскай**. Яна і ў фізіцы разбіраецца, і на музычных інструментах іграе.

Ганна звязаць свой далейшы лёс, як і астатнія аднакласніцы-медалісткі, плануе з медыцынай, хаця ў школе любімы прадмет быў беларуская мова.

А выпускны вечар, прызнаецца Ганна, нічым асаблівым не запомніцца:

– Шкада развітвацца з аднакласнікамі. І толькі.

## Каралеву нашага балю выбіраў сам Саладуха

**Алеся Клімовіч** скончыла школу ў 1993 годзе. І ўспамінае, што тады адгуляла два выпускныя. Першы, звычайны, школьны. Другі зладзілі спецыяльна для залатых і сярэбраных медалістаў у сталовай школы №12.

Каралеву выпускнога балю выбіраў спецыяльна запрошаны на ўрачыстасці **Аляксандр Саладуха**. А сярэбраны медаль Алеся атрымала ад тагачаснага старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Генадзя Карпенкі.**

**На інтэрнэт-аўкцыёнах за сучасны залаты медаль прапаноўваюць 800 тысяч рублёў, залаты медаль узору 1993 года калекцыянеры гатовы набыць за 3 мільёны рублёў.**

– Да медаля давалі яшчэ грашовую прэмію, 10 тысяч рублёў. Не памятаю, на што я іх патраціла, але памятаю, што сума была тады значная.

Атэстат з адзнакай дазваляў паступаць, здаўшы толькі адзін экзамен. Алеся выбрала юрыдычны каледж. Напісала дыктоўку па беларускай мове на 5 і паступіла. Каледж таксама закончыла з адзнакай:

– А вось універсітэт з чырвоным дыпломам заканчыць не атрымалася, бо выйшла замуж.

Ад сваіх дзяцей, прызнаецца Алеся, яна выдатных адзнак не патрабуе.

Сын **Ян** у наступным годзе заканчвае школу:

– Ён у мяне ўвесь у творчасці, медаля дакладна не будзе.

**У 1993 годзе ў Маладзечне з залатым медалём школу скончылі 84 чалавекі. Як і сёлета, лідарам сярод медалістаў была 10 школа. Тады залаты медаль атрымалі 18 выпускнікоў, сёлета – 8.**



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

### Колькі залатых і сярэбраных медалістаў у рэгіёне

МАЛАДЗЕЧНА
48 залатых і 1 сярэбраны

ВІЛЕЙКА
13 залатых

МЯДЗЕЛ
2 залатыя і 1 сярэбраны

ВАЛОЖЫН
16 залатых і 1 сярэбраны

СМАРГОНЬ
21 залаты і 2 сярэбраныя

АШМЯНЫ
26 залатых і 1 сярэбраны

АСТРАВЕЦ
8 залатых

ВЫСТАВЫ

# Даведацца пра лёс вілейскіх выпускнікоў і вызваліцеляў горада

ВІЛЕЙКА

**Гэта можна зрабіць у Вілейскім краязнаўчым музеі. Тут праходзіць выставачны праект "Дзве вайны – памяць адна". Прысвечаны ён 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і 100-годдзю вызваленню Вілейкі ў верасні 1915 года.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Юных наведнікаў цікавіць зямлянка.

Пакуль адкрылася першая частка – інтэрактыўная выстава "1418 дзён вайны". Экспазіцыя зробленая ў выглядзе рэканструяванага акопа. У храналагічным парадку размясцілі матэрыялы, што расказваюць пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны на Вілейшчыне. Можна даведацца пра вызваліцеляў Вілейкі, земляkоў-Герояў Савецкага Саюза і ўдзельнікаў важных бітваў, тых, хто вызваляў Еўропу і дайшоў да Берліна.

Наведнікі бачаць сапраўдныя дакументы і здымкі тых часоў, форму савецкіх салдат і нямецкіх акупантаў, зброю, узнагароды і лісты з фронту.

## Ад вядомага на ўвесь свет хірурга да старшыні аблвыканкама

Вось копія вілейскай абласной "Сялянскай газеты" – апошні нумар, які выйшаў 22 чэрвеня 1941 года. Карэспандэнты зрабілі рэпартаж пра першы выпуск дзесяцікласнікаў Вілейскай рускай сярэдняй школы. Тады ў Вілейцы было тры школы – яшчэ беларуская і яўрэйская.

– На старонках газеты бачым фотаздымкі, невялічкія артыкулы ад імя выпускнікоў школы. Іх было 20 чалавек. Яны здалі іспыты, і 21 чэрвеня быў выпускны баль. Пайшлі сустракаць світанне на драўляны мост праз Вілію, але на мосце ўжо была ахова, што іх вельмі здзівіла, – расказвае старшы навуковы супрацоўнік **Вольга Коласава**. – На мост іх ужо не пусцілі і анічога не патлумачылі. Выпускнікі дамовіліся, што сустрэнуцца днём на беразе Віліі. Але мары іх не збыліся.

**Мікалай Маліноўскі** пісаў у газеце, што дала яму савецкая школа. Ён застаўся на акупаванай тэрыторыі, быў сувязным партызанскай брыгады. Пасля вайны скончыў Мінскі медыцынскі інстытут. Трапіў у Маскву, стаў вядомым на ўвесь свет навукоўцам-хірургам, доктарам медыцынскіх навук, прафесарам, акадэмікам Акадэміі медыцынскіх навук СССР, Героем Сацыялістычнай Працы. Быў асабістым доктарам **Леаніда Брэжнева**.

"Буду чырвоным камандзірам" – пісаў Мікалай Сухі. Ён удзельнічаў у вайне, доўгія гады працаваў старшынёй Мінаблвыканкама. Таксама Герой Сацыялістычнай Працы.

Цікавы лёс у **Бэлы Беспразванай**. Яе дзядзька быў вядомым фатографам у Вілейцы, бацька – галоўным бухгалтарам банка. Іх сям'ю эвакуявалі ў Саратаў. Потым яна вярнулася ў Маладзечна. А лёс многіх выпускнікоў застаўся невядомым.

## Родныя даведаліся пра лёс лётчыка амаль праз 70 гадоў

Юныя наведнікі любяць фатаграфавацца ля формы савецкага лётчыка. Гэта форма **Васіля Паніна**. Самалёт СУ-2, экіпажам якога ён камандаваў, на трэці дзень вайны падчас бою ўпаў паблізу вёскі Снежкава. Два лётчыкі загінулі. Сярод іх – Васіль Панін.

Яго сваякі амаль 70 год лічылі, што іх родны чалавек прапаў без вестак. Такі адказ давалі ім, калі звярталіся ў архівы.

– Калі супрацоўнікі музея разам з **Анатолем Рогачам** раскруцілі гэту тэму, з'явіўся артыкул у рэспубліканскай газеце. Унук лётчыка Аляксей прачытаў яго на сайце і адразу прыехаў у музей, – прыгадвае Вольга Коласава. – На наступны год прывёз фотаздымкі, дакументы, форму. І ён кожны год на 9 мая прыязджае. Для яго гэта свята.

**Частка экспазіцыі прысвечаная Міхаілу Шуйдзіну. Танк, якім ён камандаваў, адным з першых уварваўся у Вілейку, Смаргонь, Вільню.**

Пасля вайны Міхаіл Шуйдзін працаваў у цырку клоўнам – доўгі час ён весяліў людзей у пары з **Юрыем Нікуліным**.

Наведнікі дазнаюцца пра "Праведніка народаў свету" **Мікалая Кісялёва**. Увосень 1942 года ён вывеў 218 яўрэяў з мястэчка Даўгінава за лінію фронту. Прайшоў з імі больш за 1500 кіламетраў па акупаванай тэрыторыі. Ішлі больш за месяц.

Тут і копія ліста **Пятра Машэрава** з Вілейкі ад 3 ліпеня 1944 года, з якога можна ўявіць, што адразу пасля вызвалення ўяўляў горад. "Горад увесь гарыць, адны руіны, адны папялішчы". Піша, што знайшлі некалькі цэлых дамоў на хутарах вёскі Порса.

**Падчас экскурсіі наведнікі могуць паглядзець кінахроніку ваенных часоў. У канцы экспазіцыі размешчаная рэканструяваная зямлянка.**

Выстава будзе працаваць на працягу года. Цяпер супрацоўнікі музея рыхтуюць другую частку праекта. Гэта выстава прысвячаецца падзеям Першай сусветнай вайны на Вілейшчыне. Адкрыць яе плануюць 2 ліпеня.



**Алесь ВЫСОЦКІ**
E-mail: alvy@tut.by



Фота з сайта http://vialejka.info/

"Паходня" не ўпершыню ладзіць свята ў Вілейцы. Цяпер яно будзе больш маштабнае – вялікі рыцарскі фэст.

ПАДЗЕІ

# На фэсце "Гонару Продкаў 2015" наведнікі пабудуць у лапах інквізіцыі

ВІЛЕЙКА

**Крыжаносцы і тампліеры, вікінгі і, вядома, рыцары Вялікага Княства Літоўскага. Прадстаўнікі розных клубаў з'едуцца на рыцарскі фэст "Гонару Продкаў 2015" у Вілейку. Пройдзе ён 4-5 ліпеня.**

Наведнікі змогуць пазнаёміцца з гісторыяй, культурай, побытам насельніцтва ВКЛ і яго суседзяў, убачыць рэканструкцыі бітваў і турніраў, паўдзельнічаць у сярэднявечных гульнях і забавах, паслухаць этнічную музыку.

Арганізатары фэсту – клуб гістарычнай рэканструкцыі "Паходня" з Вілейкі і аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама.

– Напэўна, да ідэі правядзення фэсту прыходзяць амаль усе клубы, якія сур'ёзна займаюцца гістарычнай рэканструкцыяй. Гэта як бы паказчык узроўню клуба, – расказвае удзельнік "Паходні" **Юры Палонскі**. – Захацелася для Вілейкі зрабіць нешта больш маштабнае, чым звычайна ладзім. Падумалі, што добра было б правесці вялікі фэст.

Адразу планавалі, што будзе каля 300 удзельнікаў. Цяпер іх набіраецца амаль паўтысячы. Заяўлена больш за 30 рыцарскіх клубаў і 30 рамесных майстэрняў з Беларусі, Расіі, Украіны, Даніі.

– Найбольш здзівіла майстрыха з Даніі. Яна стварае беларускае народнае адзенне. Збіраюцца прыехаць пару чалавек з Піцера. Іх зацікавіла менавіта ВКЛ, – кажа Юры.

## Замчышча з пакоем пакут

Месца для фэсту выбралі прыгожае: па левы бок – рака, справа – пралесак.

У Ніжнім парку збіраюцца пабудаваць сапраўднае замчышча памерам дзесьці 20 на 20 метраў. Агароджанае яно будзе двухметровым плотам з двума вежамі і ўваходнай брамай.

Тут будзе фотазона, дзе размешчаныя розныя даспехі, зброя, вопратка, якую можна будзе прымерыць.

– У самім замку будзе пакой пакут. Тут пакажуць прадметы, якія выкарыстоўваліся інквізіцыяй, – расказвае Юры Палонскі. – Прадстаўнікі клубаў усё прадэманструюць, растлумачаць – каб кожны адчуў, што такое сярэднявечча, што гэта не толькі танцы ды гулянкі.

## Плюс вялікая этнапляцоўка

Чым будзе адрознівацца фэст ад іншых – вялікай этнапляцоўкай.

– На іншых фэстах гэта не вельмі часта можна пабачыць, – тлумачыць Юры. – Мы палічылі, што шмат каму не так цікава рыцарства, як паглядзець на вышываначкі, паясы сплесці, гаршчочак зляпіць, спевы паслухаць і самому паспяваць.

На этнапляцоўцы будуць танцы, тэатральныя пастаноўкі, майстар-класы і спевы. Выступяць восем рок-гуртоў, самыя знакамітыя з якіх "Зніч", "Рокаш" і чатыры народныя гурты. Чакаецца вялікае вогненнае шоу і выступленне сапраўднага факіра.

Для аматараў верхавой язды на конях і стральбы з лука запрацуюць конныя выхады і цір. Таксама на фэсце будзе дзіцячая пляцоўка – з батлейкамі, рознымі забавамі і гульнямі для маленькіх, дзе можна будзе пакінуць дзетак пад наглядам педагогаў. На два дні фэсту арганізуюць палатачны лагер для гасцей.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Змяненні ў праграме глядзіце ў групе фэсту "Укантакце" vk.com/honaru_prodkau

**алми** СЕТЬ МАГАЗИНОВ

**НОВЫЙ МАГАЗИН «АЛМИ»**

приглашает на работу в **г. Минске**
*(мк-н Лебяжий, станция Масюковщина):*

- ☑ **Товароведов**
- ☑ **Администраторов т/з**
- ☑ **Заведующего производством**
- ☑ **Старших кассиров**
- ☑ **Продавцов**
- ☑ **Кассиров**
- ☑ **Укладчиков-упаковщиков**
- ☑ **Поваров 4-5 р.**
- ☑ **Формовщиков теста**
- ☑ **Кондитеров 4-5 р.**
- ☑ **Пекарей**
- ☑ **Тестоводов**
- ☑ **Обвальщиков**
- ☑ **Изготовитель п/ф**
- ☑ **Кухонных рабочих**

ЗАО «Юнифуд». УНП 800016624

Телефоны: **(017) 308-16-02, (029) 198-13-80, (029) 103-19-48**
Адрес отдела персонала: ***Минск, ул. Притыцкого, дом 93, этаж 4*** (ст.м. Каменная горка)

• Вырабляем і прадаём пенапласт 15-20-25 шчыльнасці. ІП Панічаў А.І. УНП 591802484. Т. (8-029) 9345433, (8-033) 6582077, (8-01592) 61135 пасля 18.00.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• Добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417, (8-029) 5544175.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• Еўрасцяжка за 1 дзень. ІП Шыдлоўскі В.А. УНП 591702887. Т. МТС (8-029) 2335084, Вэлком (8-029) 3823187.*

• **ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш**. АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ГРМ, ланцугоў, рамонт падвескі**. ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Камп'ютарная аўтадыягностыка, чып-цюнінг. ПУП "ЛенВіРо" УНП 691505812. Т. (8-029)3426222, (8-025) 9026220.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Падача вады ў дом ад калодзежа, свідравіны. Устаноўка, падключэнне, ТА вадзяной станцыі, гідрафлоры, глыбіннай помпы. ІП Жаўняровіч С.І. УНП 691881805 Т. Вэлком (8-029) 6634349, МТС (8-029) 5768106.*

• Паслугі сантэхніка, электрыка. Падключэнне пральных машын, бойлераў. Правяду водаправод, каналізацыю. Выезд на раён. ІП Гіль М.М. УНП 690254201. Т. (8-029) 5616340, (8-0176) 726924.*

• Паслугі сантэхніка. Устаноўка душавых кабін, водаправод, каналізацыя, ацяпленне. Выезд на раён. ІП Падгорны Д.В. УНП 691888590. Т. (8-029) 9299085.*

• Паслугі электрыка ад "А" да "Я". ІП Драгун А.А. УНП 691884197. Т. (8-029) 7706263. (8-029) 9710597.*

• **ПЕРАЦЯЖКА І РАМОНТ МЭБЛІ**, змена дызайну, вялікі выбар тканін, найкарацейшыя тэрміны, дома і з вывазам, гарантыя, якасць, нізкія цэны, **СКІДКІ**. ІП Берднікаў Ю.С. УНП 290355144. Т. (8-025) 5366646, (8-029) 6251753.*

• Перацяжка мяккай мэблі, рамонт матрацаў, вялікі выбар тканін. ІП Ярашэвіч Е.С., УНП 691861564. Т. (8-033) 9000440, (8-029) 6206260.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Рамонт, выраб розных металавырабаў, варот, брамак, лавак, сталоў, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Распілоўка лесу с выездам да заказчыка – дошка, брус, кроквенная (стропильная) сістэма. Нізкія цэны. ІП Гардзей Е.В. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Студыя "Карона Арт". **ТАТУАЖ, ПЕРМАНЕНТНЫ МАКІЯЖ**. ІП Кушч О.А. УНП 691880191. Т. (8-029) 3345044.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Фундаменты. Зямельныя работы. Ад 300 000 руб за 1 куб. м. ІП Арол А.Д. УНП 691516119. Т. (8-044) 7394103, (8-029) 7394083.

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні. Вяселлі, юбілеі, карпаратывы для дарослых, выпускныя вечары. ІП Канановіч І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692 МТС, (8-044) 4904791 Вэлком.*

• Шынамантажа паслугі, раскатка дыскаў, зварка аргонам, рамонт падвескі. ІП Арол Д.Ф. УНП 691884036. Т. (8-033) 3836130, (8-044) 7841878.*

• **ЭЛЕКТРАМАНТАЖ. ВІДЭА-НАЗІРАННЕ**. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

### Будматэрыялы, сантэхніка

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• **БЛОКІ ГАЗАСІЛІКАТНЫЯ**. Цэны ніжэй за заводскія. **ДАСТАЎКА АД 1-ГА ПАДДОНА**. ІП Ісічэнка Е.В. УНП 691888999. Т. (8-029) 1423515.*

• **ПЯСОК, ПГС, БЕТОН, РАСТВОР, ШЧЭБЕНЬ, ГРАВІЙ, ЧАРНАЗЁМ**. ІП Арол А.Д. УНП 691516119. Т. (8-044) 7394103, (8-029) 7394083.*

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

### Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне

• Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

• Самаробны трактар з прычэпам. Т. МТС (8-029) 2575271, Лайф (8-025) 7516765.*

• Трактар МТЗ-80 у добрым стане, з дакументамі. Т. (8-029) 7655175, (8-029) 3769055.

• Бульбакапалка да міні-трактара МТЗ 132 Хонда. Валожын. Т. (8-044) 5543367.

• Самаробны трактар, рухавік УД 2-цыліндравы, бензін. Т. (8-029) 9895646.*

• Трактар МТЗ-80. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5043123.

• Плугі 2-корпусныя, акучнікі. Т. Вэлком (8-029) 1629038, МТС (8-033) 3023900 Валеры.

### Бытавая тэхніка

• Газавая пліта б/у, нядорага. Т. (8-033) 6021505.

### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
8-029-570-22-12
8-029-905-63-93
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ НТВ + І ТРЫКАЛОР ТВ. АКЦЫІ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 5702212, (8-029) 9056393.***

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

### Мэбля

• Канапа-ложак, б/у, добры стан, 2 000 000 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 5045977, 773537.

### Музінструмент

• **МАГАЗІН МУЗЫЧНЫХ ІНСТРУМЕНТАЎ** прапануе: гітары, скрыпкі, флейты, комбаўзмацняльнікі, сінтэзатары, чахлы і інш. аксесуары. г. Маладзечна, вул. Віленская,12 (будынак атэлье «Бярозка»). ІП Строк УНП 691887699. Т. МТС (8-029) 5064026.*

### Жывёла, птушка, пчолы

• 5 сем'яў пчол і інвентар ў Вілейцы. Т. МТС (8-029) 2567458.

• Індычаняты дамашнія, авечкі рознага ўзросту, нядорага. Маладзечна. Т. (8-029) 6795211, (8-0176) 723290.

• Конь рабочы. Вілейскі р-н, в. Мішуты. Т. (8-029) 5642857.

• Конь, 12 гадоў. Т. (8-0176) 723192, (8-029) 8781755.

• Маладняк і мяса трусоў. Т. (8-029) 7628438.* 737798.

• Рабочая кабыла, 12 год. Т. (8-044) 7364514, (8-029) 3175107 Вэлком.*

• Раі пчол. Валожынскі р-н. Т. (8-029) 6944819.*

• Шчаняты мопса, 1,5 месяца. Т. (8-033) 3516982, (8-029) 2680901.

• Шчаняты ягдтэр'ера, 1 месяц, нядорага. Т. МТС (8-033) 6355062, (8-029) 7801558.

### Іншае

• Батарэі чыгунныя б/у, 43 рабры, помпа. Т. МТС 8536769.*

• Бульба насенная (на корм жывёле). Цана 1 000 руб. за 1 кг. Самавываз. Т. (8-029) 7015068.*

• Вясельная сукенка David Tutera, мадэль №114278 Gratham, памер 42. Т. (8-033) 6338824.*

• Гандлёвыя прылаўкі (шкляныя кубы) 800*800*900 мм. Т. (8-029) 3869353.

• Дровы. Т. Вэлком (8-044) 4784873, МТС (8-033) 6510342.*

• Казінае малако пародных вясковых коз у Маладзечне. Прывязу Вам дадому. Т. (8-044) 4567627, (8-0176) 728458.*

• Касавы апарат б/у ОКА102к у рэестры. Т. (8-029) 3869353.

• Каляска (2 в 1), у выдатным стане, 1 800 000 руб. Т. (8-029) 1674252.

• Машына дрэваапрацоўчая новая. Т. (8-029) 1740513.*

• Манекены выставачныя, чорныя і белыя. Т. (8-029) 3869353.

• Прадуктовы магазін (павільён 70 кв. м) у в. Краснае. Т. (8-029) 3869353.

• Прамысловая швейная машына ZJ757A-516M2-55 (аверлок). Прамысловая швейная машына ZJ9600. Стол раскройны. 2750*1950. Амаль без эксплуатацыі. Т. (8-029) 3869353.

• Павозка конная на гумовым ходзе, ёсць фаркоп. Т. (8-0176) 744863, Вэлком 6112157.

• Прагулачная каляска для дзяўчынкі. Маладзечна. Т. (8-029) 2576596.

• Прагулачная каляска, 1 год б/у, 800 000 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 5045977, 773537.

• Прычэп-бочка для вады 3,2 куб., на колах, добры стан, 12 000 000 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 9192155.*

• Ровары б/у, 2 шт., нядорага. Т. (8-033) 6021505.

• Светлавы кораб "Прадукты" сіні на белым. Т. (8-029) 3869353.

• **УСЁ ДЛЯ ДАХУ: МЕТАЛАЧАРАПІЦА, ПРАФНАСЦІЛ, АНДУЛІН, ГІБКАЯ ЧАРАПІЦА, ФАЛЬЦАВАЯ ЧАРАПІЦА, КЕРАМАПЛАСТ, МЕТАЛАШТАКЕТНІК. ПОЎНАЯ КАМПЛЕКТАЦЫЯ. ЗАМЕР, ДАСТАЎКА, ГАРАНТЫЯ. ЧП "АЛЕКС-ДОМ" УНП 690550072. т. (8-029) 7768262, (8-029) 3667001, (8-0176) 745851.***

• **УСЁ ДЛЯ ДАХУ І АГАРОДЖЫ. МЕТАЛАПРАКАТ**. Металачарапіца, прафнасціл, труба профільная. Замер, дастаўка. ІП Тышкевіч К.І. УНП 691178470. Т. (8-033) 6357586, (8-044) 7526450.*

• Фрэзерны металаапрацоўчы інструмент. Т. МТС (8-029) 2005567, МТС (8-033) 3512528.*

• Швейнае абсталяванне б/у на з/ч. Т. (8-029) 3869353.

• Халадзільныя вітрыны, тумбы, сігналізацыя, відэаназіранне. Т. (8-029) 8624263.*

## КУПЛЮ

### Бытавую тэхніку

• Тэлевізары няспраўныя плазменныя і LCD. Т. (8-029) 6434740.*

### Жывёлу

• **КАНЯ, буйную рагатую жывёлу** і інш. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581 Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

• Смаўжа (улитка) вінаграднага, май-чэрвень 2015 г. Т. (8-029) 5764887 Ілля.*

### Антыкварыят

• **АНТЫКВАРЫЯТ ДОРАГА! БЕЗ ПАСРЭДНІКАЎ. ВЫЕЗД!** Т. МТС (8-029) 7764214.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

### Іншае

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Медагонку 2-рамачную, перакідную. Т. (8-0176) 744863, Вэлком 6112157.

## ІНШАЕ

• **УВАГА: ПОШУК! 22 ЛЮТАГА 2015 г. У РАЁНЕ ДЗІЦЯЧАЙ ПАЛІКЛІНІКІ г. МАЛАДЗЕЧНА БЫЎ УГНАНЫ А/М ОПЕЛЬ-ВЕКТРА А, СЕДАН БЕЛАГА КОЛЕРУ. НА КУЗАВЕ ЁСЦЬ НЯЗНАЧНЫЯ ДЭФЕКТЫ. РЭГІСТРАЦЫЙНЫ №6186 ІК-5. ПРОСЬБА ДА ЎСІХ, ХТО ВАЛОДАЕ ЯКОЙ-НЕБУДЗЬ ІНФАРМАЦЫЯЙ ПРА ГЭТЫ ВЫПАДАК, ПАТЭЛЕФАНАВАЦЬ ПА ТЭЛ. 102 ЦІ 8 029 271 02 73. УЗНАГАРОДА І КАНФІДЭНЦЫЯЛЬНАСЦЬ ГАРАНТУЕЦЦА.**

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ. ЗАМЕР. КАНСУЛЬТАЦЫЯ. ДАПАМОГА Ў ДАСТАЎЦЫ. Т. (8-029) 6249371, (8-029) 7629036.***

• **ЗБОРКА ЛАЗНЯЎ З БРУСУ. КАНСУЛЬТАЦЫЯ. ДАПАМОГА Ў ДАСТАЎЦЫ. Т. (8-029) 6249371, (8-029) 7629036.***

• Кладка, дах, плітка, падлогі, сайдынг, пластык, тынкоўка, малярка. Т. (8-029) 7583769.*

• Майстар-аддзелачнік зробіць кваліфікаваны еўрарамонт (ад дробнага да пад ключ). Т. (8-044) 5724916.*

• Масажыста. Т. (8-029) 9756978.*

• Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач "Улік ОС", "Улік МЦ","Улік ТМЦ і выпіска са склада", "Калькуляцыйная картачка"). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 145-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*

• **УСТАНОЎКА СХІЛЬНЫХ ДАХАЎ. КАНСУЛЬТАЦЫЯ. ДАПАМОГА Ў ДАСТАЎЦЫ. Т. (8-029) 6249371, (8-029) 7629036.***

## ПАТРАБУЮЦЦА

• Маналітчыкі: цесляры, бетоншчыкі, арматуршчыкі. Т. (8-029) 7601666.

• **ПРАДАВЕЦ ХАРЧОВЫХ ТАВАРАЎ З ДОСВЕДАМ ПРАЦЫ Ў ПТУП «ВАСТОРГ-ЛІК». УНП 691168652. Т. (8-029) 6129815.***

• Станочнік стужкавых станкоў. ТАА «ЭксПроВуд» УНП 590690303. Т. (8-044) 5782195.*

ГІСТОРЫЯ

# Рэха падземна-міннай вайны. Навасёлкі

СМАРГОНЬ

**Пазіцыйны характар Першай сусветнай вайны прывёў не толькі да выкарыстання новых відаў зброі, але ўзнавіў ранейшыя, вядомыя са старажытнасці, спосабы барацьбы.**




Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Сціплы знак у памяць аб загінулых салдатах пад Навасёлкамі.

На франтах разгарнулася нябачная на паверхні падземная вайна з выкарыстаннем падкопаў, пракладваннем лабірынтаў тунэляў ці мінных галерэй, закладкай выбухоўкі і падрывам ўмацаванняў саперніка. Барацьба з ворагам з-пад зямлі стала надзеяй на перамогу, але ёй не дадзена было спраўдзіцца.

У пасляваенны час гісторыя такога спецыфічнага супрацьстаяння даволі грунтоўна была даследавана на заходнееўрапейскім тэатры дзеянняў і амаль цалкам выкраслена на доўгія гады з гісторыі вайны ў нашым краі.

Яе маштаб на рускагерманскім фронце сапраўды быў непараўнальны з падземна-міннай вайной на франтах саюзнікаў. Але гэта не падстава лічыць тыя мінулыя падзеі менш значнымі, тым больш забыць іх і страціць.

Многа цікавых старонак вайны пад зямлёй былі звязаныя з рэгіёнам і вартыя нашай удзячнай памяці.

Першыя крокі па ўзнаўленні падзей мінна-падземных баталій зрабіла напрыканцы мінулага стагоддзя супрацоўніца Смаргонскага краязнаўчага музея **Надзея Маркава**. У серыі публікацый пад назвай "На скрыжаванні ваенных віхур" Надзея Емельянаўна з дапамогай архіўных дакументаў паспрабавала ўзнавіць гісторыю барацьбы за "Залатую горку" пад Смаргонню.

Працягнуў і паглыбіў вывучэнне гэтай тэмы аўтарытэтны даследчык ваенных падзей у нашым краі **Уладзімір Лігута**. Вядомы калекцыянер рарытэтных ваенных фотаздымкаў і дакументаў **Уладзімір Багданаў** звярнуў увагу на матэрыялы нямецкага боку па тэматыцы і даў магчымасць пакарыстацца летапісамі нямецкіх фарміраванняў, якія ваявалі ў нашых мясцінах. Атрыманыя ў выніку пошуку новыя звесткі сёння могуць пашырыць нашы веды пра падземна-мінную вайну на Смаргоншчыне.

## "Рускі нос"

Адна з першых падземна-мінных атак, а магчыма, і самая першая, на тэрыторыі сучаснай Беларусі адбылася на поўдзень ад Крэва, каля вёскі Навасёлкі. Упартая барацьба за мясцовы ўзгорак, які нямецкія картографы пазначылі на сваіх картах як "Рускі нос", пачалася з канца верасня 1915 года.

**Справа ў тым, што лінія фронту ў гэтым месцы перакрэсліла раку Краўлянку, стратэгічны ўзгорак замацаваўся за рускай арміяй, а самі пазіцыі перайшлі на правы, заходні бераг ракі.**

Такім чынам утварылася вельмі небяспечная пагроза для немцаў. На працягу шасці месяцаў кайзераўцы беспаспяхова спрабавалі выбіць рускіх абаронцаў з вышыні. Зімой наступнага года яны змянілі тактыку, праклалі падземныя мінныя галерэі і 13 (26 па н.ст.) сакавіка 1916 года правялі свой першы падрыў міннага зараду на "Рускім носе". Цалкам верагодна, што вядомы фотаздымак прапаршчыка **Уладзіслава Паўлюкоўскага**, дзе зафіксаваныя пацярпелыя ад разрыву дынаміту салдаты, мог быць зроблены ў час гэтай першай міннай атакі немцаў пад Навасёлкамі.

У сваю чаргу рускія сапёры 20 (02.04) сакавіка 1916 года правялі контрмінную атаку і ўзрывамі двух камуфлетаў, гэта значыць, выбухамі пад зямлёй зарадаў без стварэння варонак на паверхні, разбурылі падземную галерэю саперніка.

Больш за месяц немцы рыхтавалі новую падземную атаку і 27 (10.05) красавіка другі раз падарвалі мінны зарад на старым месцы. Па нямецкіх дадзеных, даўжыня варонкі ад паўторнага выбуху склала 30-40 метраў, а глыбіня дасягнула 10 метраў.

## Героі бою

Рускі бок у адказ правёў дзве свае мінныя атакі 3(16) і 8(21) мая 1916 года. Пры гэтым варонка пашыралася да 50 метраў. Падрыў рускага міннага калодзежа ў гэтых мясцінах – магчыма, аднаго з апошніх – адбыўся 21(03.06) мая 1916 года.

У ваенным часопісе "Разведчикъ" падзея апісаная так: "У раёне на поўдзень ад Крэва ў ноч на 21 мая намі быў узарваны мінны калодзеж. Пасля ўзрыву немцы, асвяціўшы ўтвораную варонку і адкрыўшы агонь, перайшлі ў наступленне, якое было спыненае нашым агнём".

Кожны раз пасля падрываў мінных зарадаў ішлі жорсткія баі за "вянчанне" варонкі. Удзельнічалі ў сутычках з нямецкага боку салдаты 333-га пяхотнага палка 89-й пяхотнай дывізіі, рускія пазіцыі абаранялі салдаты 191-га Ларга-Кагульскага палка 48-й пяхотнай дывізіі. Падземныя работы ў раёне Навасёлак выконвалі байцы 24-га сапёрнага батальёна пад камандаваннем палкоўніка **Аляксея Андрэевіча Адо.**

За бліскучую арганізацыю як наступальнай, так і абарончай міннай вайны на гэтым участку фронту мужны афіцэр рускай арміі быў узнагароджаны Георгіеўскай зброяй.

Вызначыўся ў час начнога бою 3(16) мая 1916 года пад Навасёлкамі падпаручнік 191-га пяхотнага Ларга-Кагульскага палка **Мікалай Аляксандравіч Мельнікаў**.

Загадам па арміі і флоце ён быў узнагароджаны Георгіеўскай зброяй. Атрымаў за тое, што "пасля ўзрыву закладзенага сапёрамі горна, нягледзячы на знішчальны артылерыйскі, ружэйны і кулямётны агонь саперніка, кінуўся на чале 53-х ніжніх чыноў-ахвотнікаў да ўтворанай варонкі. Заняў яе, адбіў атаку ворага ружэйным агнём і ручнымі гранатамі з вялікімі для яго стратамі. А затым прыняў кіраванне сапёрамі і мінёрамі, якія прыбылі на падтрымку ўзводам пяхоты, выканаў вянчанне варонкі і ўтрымаў яе за сабою".

## Сціплы мемарыял

Па звестках, якімі падзяліўся ваенны гісторык **Андрэй Каркотка** з Вілейкі, сваіх загінулых таварышаў рускія салдаты хавалі на ваенных брацкіх могілках пры вёсцы Мікулеўшчына. У вайну там была пабудаваная капліца, якая, на жаль, не захавалася да нашага часу. Загінулыя нямецкія салдаты былі пахаваныя на вайсковых могілках у Барунах.

Напрыканцы мінулага года, у час наведвання слядоў, якія захаваліся ад тых далёкіх баталій пад Навасёлкамі, з цікавасцю была агледжаная шматпакутная варонка мінных атак.

Па сённяшні дзень яна знаходзіцца ў някепскім стане, з цягам часу толькі амаль зніклі земляныя валы вакол яе, а распрацаванае поле падабралася да яе берагоў.

Але больш за ўсё на тым месцы ўразіў сціплы мемарыяльны знак каля кратэра. Ім невядомыя руплівцы пазначылі свае адносіны да былой падзеі.

На звычайным драўляным слупку з фрагментамі калючага дроту прымацаваная простая шыльдачка з надпісам па беларуску: "Тут у І сусветную вайну загінулі салдаты 191-га пяхотнага Лагра-Кагульскага палка. Вечная памяць".

Не сапсавала настрой і блытаніна літар у назве палка, дзе замест Ларга напісана Лагра. Калі знаходзяцца неабыякавыя людзі і сваімі справамі шануюць мінулае – памяць будзе жыць!

**Уладзімір ПРЫХАЧ, Смаргонь.**

КАЛЯНДАР

19 ЧЭРВЕНЯ.

**1912 год.** Нарадзіўся Пятро Бітэль (мяст. Радунь, цяпер Воранаўскі р-н), пісьменнік, паэт, перакладчык, настаўнік, праваслаўны святар. Дэбютаваў у 1929 годзе пад псеўданімам Леанід з-пад Вішнева ў часопісе "Шлях моладзі", дзе публікаваўся і пазней. Памёр 18 кастрычніка 1991 у Вішневе Валожынскага раёна.

**1924 год.** Нарадзіўся Васіль Быкаў, народны пісьменнік Беларусі.

20 ЧЭРВЕНЯ.

**1964 год.** У Мюнхене памёр Пётр Сыч, пісьменнік, публіцыст, вязень савецкіх канцлагераў, журналіст. Нарадзіўся ў вёсцы Батурына, што на Вілейшчыне. Аўтар кнігі "Смерць і салаўі" – пра перажытае пад Монтэ Касіна.

**10 гадоў** назад (2005) памерла Аляксандра Бергман, дзеяч Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі, даследчык гісторыі, вязень савецкіх канцлагераў. Аўтар манаграфій і артыкулаў пра грамадска-палітычных дзеячаў Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд – Б. Тарашкевіча, І. Дварчаніна, Л. Родзевіча, В. Харужую, С. Рак-Міхайлоўскага, іншых. Нарадзілася 1 мая 1906 года ў Гродне.

22 ЧЭРВЕНЯ.

Дзень усенароднай памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны.

**65 гадоў** назад (1950) у Маладзечне адбыўся суд над удзельнікамі мядзельска-смаргонскага вучнёўскага антысавецкага падполля. Большасць удзельнікаў асуджана да 25 гадоў савецкіх канцлагераў, а кіраўнік групы Расціслаў Лапіцкі – да расстрэлу.

**2003 год.** Памёр Васіль Быкаў, народны пісьменнік Беларусі.

24 ЧЭРВЕНЯ.

**115 гадоў** з дня нараджэння Кузьмы Чорнага (сапр. Мікалай Карлавіч Раманоўскі) (1900–1944), беларускага пісьменніка, драматурга, публіцыста.

**1812 год.** У Беларусь увайшлі войскі Напалеона, пачалася вайна.

**125 гадоў** з дня нараджэння (1890) Часлава Родзевіча, беларускага тэатральнага і грамадскага дзеяча. Старэйшы брат Леапольда Родзевіча.

**115 гадоў** з дня нараджэння (1900) Кузьмы Чорнага, пісьменніка, класіка беларускай літаратуры, публіцыста, вязня савецкіх турмаў.

25 ЧЭРВЕНЯ.

**110 гадоў** з дня нараджэння Петруся Броўкі (1905 – 1980), беларускага паэта, празаіка, грамадскага дзеяча, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, народнага паэта Беларусі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ЗАХАПЛЕННІ

# У яго руках камень распадаецца на часткі

ВІЛЕЙКА

**Сабраць з поля камяні, раскалоць іх і пабудаваць сабе майстэрню? Думаеце, немагчыма? Майстар з Абадоўцаў Генадзь Шалуха зрабіў сабе такую за два месяцы.**


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.
Генадзь Шалуха стаіць каля варот. І вароты, і дом ён пабудаваў сам.

Яго з дзяцінства вабіла спадчына пана Багдановіча, які жыў у абадоўскай сядзібе. Тое, што было ім пабудаванае, цяпер пераважна разбуранае. А была ў Раёўцы кардонная фабрыка, якую пан нібыта выйграў у карты. У Абадоўцах яго маёнтак спалілі ў вайну партызаны. Як і іншыя заможныя прадстаўнікі родаў, з'ехаў, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад СССР.

– Я вясковы чалавек, абадоўскі, тут нарадзіўся і жыву. Год 20 таму было каля 15 будынкаў Багдановічаў, засталося, можа, пяць. Яны былі проста прыгожыя, цяпер такіх не будуюць. Толькі зносіць умеюць. Дзядуля працаваў у Багдановіча і часта расказваў унуку гісторыі пра пана. У таго была вінакурня, сыраварня, у сажалцы разводзіў рыбу. Яе было столькі, што дзед граблямі лавіў. На веснавую пасяўную спачатку сеялі людзям, а пасля ўжо панскую гаспадарку засявалі. З розумам так рабіў, каб людзі не разрываліся і маглі добра працаваць на Багдановіча.

– Як расказваў дзед, той быў разумны і сапраўдны гаспадар. І сад быў, плоданасіў. Быў бы цяпер гаспадар – сок бы ціснулі.

Пытаемся, ці баліць душа па высечаных садах і разбураных будынках:

– Ха, не тое слова, таму і настрой такі. Цяпер і будынкі зносяць, і сады высякаюць. Дзе быў сад, цяпер баршчэўнік кругом.

## У кожнага каменя свой малюнак

Калі разбіралі старыя будынкі Багдановіча, камяні выкідалі проста ў поле. Майстар збіраў камяні і паспрабаваў скарыстаць у сваёй гаспадарцы. Два месяцы толькі вучыўся калоць камяні. А пасля за два месяцы і майстэрню зрабіў.

Ён глядзеў панскія будынкі – відаць, што долатам білі. Але як самім калоць камяні? З сябрам **Лёшам** чыталі і літаратуру, і ў інтэрнэце шукалі. Спрабавалі заліваць адтуліну вадой, награваць, але ўсе спосабы аказаліся недарэчнымі. А навучыліся майстры пакараць камень дзякуючы выпадковасці.

– Спачатку ніяк не маглі даць рады, малацілі кувалдамі, што дурні. Перфаратарам свідравалі адтуліны. Свідраваць неглыбока трэба, на сантыметраў 7-8. Уставілі калкі. Але для іх трэба падабраць метал – спачатку то гнуўся, то крышыўся. Паспрабавалі сталь. Кувалдай забілі. У кожнага каменя ёсць малюнак, трэба пры гэтым яго ўлічваць. А самую хітрасць мы зразумелі праз тыдні два, як намахаліся кувалдай. Камень не паддаваўся, загналі кліны. Селі з Лёшам пакурыць, чуем, нешта стала патрэскваць: трэсь-трэсь, трэсь-трэсь… Нарэшце: "Лоп!" – і камень сам развaліўся. Праз напружанне паддаўся. Так што трэба падагнаць і вычакаць час, 2-5 хвілін, тады камяні самі развальваюцца.

Цяпер мужчыны могуць раскалоць камяні любога памеру. За тыдзень накалолі на ўсю майстэрню. Многія прыязджалі і дзівіліся майстэрству, адзін нават паспрабаваў сам раскалоць камень, але праз колькі хвілін кінуў.

Генадзь марыў пабудаваць штосьці больш велічнае ў гэткім жа стылі, як будынкі Багдановічаў. У ідэале паставіў бы прыгожую будыніну, яшчэ адну, на якую б і праз гадоў 200-300 глядзелі б.

## Зямля і дрэва

Генадзь майструе вырабы з дрэва. Можа зрабіць драўляную калону, трайную канапу, столікі. Асноўны занятак – распілоўка лесу. Генадзь мае сваю гаспадарку "Садок", якую ў 2001 годзе арганізаваў як фермерскую гаспадарку.

Працавала каля 80 чалавек, тэхніка, атрымлівалі добрыя заробкі.

– Гэта прыцягнула ўвагу – праверкі прыязджалі па некалькі разоў на месяц, – кажа Генадзь.

Цяпер ў гаспадарцы працуе пераважна два чалавекі. А энтузіязму не засталося зусім.

## Марыць пра Аўстралію

У Генадзя з жонкай **Таццянай** трое дзяцей. Дачка **Жэня** заканчвае БНТУ, выйшла замуж. Сын **Ваня** пачаў вучыцца ў БНТУ. Малодшая **Ксюша** закончыла другі клас Ільянскай школы.

У дзяцінстве Генадзь шмат кніг чытаў пра Аўстралію, нават бумерангі майстраваў, толькі не вельмі атрымлівалiся. Пабачыць гэты кантынент ён вельмі хацеў бы. Стрымлівае не толькі тое, што білет дарагі, але і тое, што з родных Абадоўцаў і так раз'ехалася большасць жыхароў. Нават з утаптанымі ў зямлю марамі ў душы застаецца да яе сантымент.

Зоя ХРУЦКАЯ.

МАЙСТРЫ

# Паселяцца нарачанскі кракадзіл і вужыны кароль

МЯДЗЕЛ

**Арыгінальныя скульптуры і лавы ствараюць майстры ў курортным пасёлку Нарач (Купа).**

Тут ад 10 да 19 чэрвеня праходзіць абласное свята-конкурс майстроў драўлянай манументальнай скульптуры "Сонечная цеплыня дрэва". Праводзіцца ў 14-ы раз, і за гэты час пагасціла ў розных раёнах Міншчыны.

Сёлета ўдзельнічаюць у свяце 12 майстроў з Мінскай і Гомельскай абласцей. Сярод умельцаў два прадстаўнікі Мядзельшчыны – **Юрась Камандзірчык** і **Уладзімір Хіхіч**.

Кожнаму майстру прывезлі па два ствалы таполі ці асіны – даўжынёй два і больш метры. Увасабляюць ідэі ўмельцы паблізу Нарачы.

У каго ў дрэве ажываюць беларускія паданні, як у кампазіцыі "Мелодыя купальскай ночы", хто захацеў зрабіць персанажаў жывёльнага свету – мішку ці зубра. Вось **Яўген Осіпаў** з Беразіно ствярае скульптуры савы і глушца:

– Падабаюцца матывы прыроды, чалавек таксама яе часцінка.

**– Якія ўражанні?**

– Цудоўныя! Першы раз на такім пленэры. Рады, што з многімі майстрамі пазнаёміўся. Нумары тэлефонаў узяў, мо, калі параіцца спатрэбіцца. Сфатаграфую працы – яны ўсе цікавыя.

Апроч скульптур, майстры ствараюць лавы. Ёсць і для заказчыка, з красамоўнай назвай "Трэці лішні", ёсць у выглядзе нарачанскага кракадзіла ці вужынага караля.

Драўляныя скульптуры і лавы ўпрыгожаць мядзельскія вуліцы.

Алесь ВЫСОЦКІ.


Фота vanil96.ru.

САКРЭТЫ ЖЫЦЦЁВАГА ПОСПЕХУ

# Графік прыгажосці для догляду за скурай

*Прыгажосць – гэта Прырода, якая дасягнула дасканаласці.* О'Генры.

## У які час сутак лепш даглядаць за скурай

Ці ведаеце вы, што наносіць крэм пасля 10 гадзін вечара нельга, таму што твар яго проста не зможа ўсмактаць, і ўся карысць дастанецца падушцы.

Для кожнай працэдуры прыгажосці ёсць свой час сутак. Ён вельмі важны складнік эфектыўнасці догляду за скурай твару. Таму выражце гэты графік і павесьце за люстэркам.

**23:00-5:00.** У гэты час найлепш спакойна спаць, таму што клеткі абнаўляюцца. Асабліва ў перыяд глыбокага сну абнаўленне праходзіць у восем разоў актыўней, чым у іншы час сутак.

**5:00-6:00.** У працу актыўна ўключаюцца ныркі. Наднырнікі пачынаюць вылучаць "гармон стрэсу" ў нашу кроў, які пацяху будзіць арганізм.

**6:00-7:00.** Правільны час для пад'ёму. Арганізм пачынае актыўна выпрацоўваць гармоны, сэрца б'ецца хутчэй. У гэты час скура найлепш усмоктвае вільгаць, а значыць, варта заняцца яе ўвільгатненнем і прыняць водныя працэдуры.

**7:00-8:00.** Час ранішняга догляду за скурай. Падрыхтуйце яе да нагрузак, якія чакаюць цягам дня. Нанясіце ўвільгатняючыя сродкі ад уздзеяння ультрафіялету.

**8:00.** Ідэальны час, каб працерці скуру лёдам з травяным адварам, зрабіць кампрэс.

**8:00-12:00.** Час для касметычных працэдур: у арганізме актыўны абмен рэчываў.

**12:00.** Пачынаецца зніжэнне тонусу, з'яўляюцца маршчынкі. У гэты час лепш не есці, таму што ежа ляжа цяжкім грузам.

**13:00-14:00.** Рэкамендуецца невялікі адпачынак, 15-хвілінны сон ці проста расслабленне.

**13:00-16:00.** Касметычныя працэдуры непажаданыя. Скура не можа нічога ўсмактаць.

**16:00-17:00.** Арганізм зноў у тонусе. Найлепшы час для спорту, басейна ці саўны. Калі вы яшчэ на працы, зрабіце сабе масаж рук, твару і вачэй.

**17:00-18:00.** Час для чысткі твару, пілінгаў і масак.

**18:00-19:00.** Зніжаецца болевая ўспрымальнасць. Можна зрабіць эпіляцыю і іншыя балючыя касметычныя працэдуры. Высокая тэмпература і пара расслабяць, вывядуць таксіны і настрояць на здаровы сон.

**19:00-20:00.** У гэты час найбольшая верагоднасць алергічных рэакцый. Не чапайце скуру.

**20:00-21:00.** Ачысціце скуру ад касметыкі, пылу тонікам ці гелем для ўмывання. Нанясіце любімы начны крэм, калі трэба.

**22:00.** Калі не паспелі нанесці начны крэм раней, то расслабцеся. Пасля 22 скура не можа ўспрымаць умяшальніцтва звонку.

**Кампаненты крэму, не паспеўшы ўсмактацца, могуць прывесці да ранішніх ацёкаў.**

**23:00.** У такі позні час лепш абмежавацца проста ачысткай, а крэмы лепш аднесці да раніцы.

**Ад 23:00.** Арганізм заспакойваецца. Не чапайце скуру. Актыўнасць капіляраў у гэты час самая нізкая. Абмен рэчываў зніжаны.

Дабранач!


Юлія ФІЛІПОВІЧ, касметолаг

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Як стаць добрым бацькам, калі застаўся адзін

МАЛАДЗЕЧНА

## Бацькоў, якія адны выхоўваюць дзіця, большае.

У раёне зарэгістравана 39 татаў-адзіночак, якія выхоўваюць 48 дзяцей. Сярод іх 29 удаўцоў, двое шматдзетных, чацвёра выхоўваюць дзіця-інваліда.

Бацькі застаюцца адны па розных прычынах: смерць жонкі, яе знікненне, пазбаўленне бацькоўскіх правоў, доўгае лячэнне, заключэнне ў турму, а часам жанчыны кідаюць сям'ю.

У такой сітуацыі многія замыкаюцца ў сабе, перастаюць падтрымліваць кантакты і адчуваюць крыўду.

Татам-адзіночкам даводзіцца расстаўляць прыярытэты. Часам яны мусяць адмаўляцца ад перспектыўнай працы, мяняць лад жыцця, вучыцца быць чулым.

**Дзень бацькі ў шэрагу краін адзначаюць у трэцюю нядзелю чэрвеня. Сёлета гэта 21 чэрвеня.**

**З якімі псіхалагічнымі складанасцямі сутыкаюцца бацькі-адзіночкі:**

– немагчымасць выконваць некалькі спраў адначасова, як гэта звыкла для жанчыны

– адчуваюць страту ўласнай свабоды

– праблемы самарэалізацыі праз змушаныя абмежаванні ў кар'еры

– сацыяльная самота

– ціск праз фінансавую адказнасць

– адчуванне немагчымасці пачаць новыя зносіны з жанчынай.

### Як зблізіцца з дзіцем і пераадолець складанасці

– **Прыміце** сітуацыю, як патрэбнае. Пастарайцеся супакоіцца.

– Прасіце **дапамогі і парады** ў знаёмых жанчын. Найміце няньку ці аддавайце дзіця на час пабыць з бабулямі. Удзел жанчыны ў выхаванні неабходны. А для вас гэта дасць крыху часу на сябе. Калі мама ёсць, калі гэта магчыма, не абмяжоўвайце зносіны дзіцяці з ёй.

– Важны элемент выхавання – **пяшчота**. І сыну, і дачцэ трэба як мага больш ласкі. Дотыкі і цялесныя адчуванні вельмі ўплываюць на псіхалагічнае развіццё чалавека.

– Любое выхаванне трэба падмацоўваць **уласным прыкладам**. Асабліва гэта тычыцца шкодных звычак і вашых захапленняў і хобі. У першым выпадку ва даяце адмоўны прыклад, у другім – станоўчы.

– Агульныя **справы і захапленні** – аснова ўзаемнага даверу і прывязанасці. Гэта могуць быць гульні, фільмы, кнігі, шахматы, праца па доме.

– Заахвочвайце ў дзіцяці **актыўнасць і самастойнасць**. Не рабіце ўсё за яго. Запішыце сына ці дачку ў спартыўныя секцыі, гурткі па інтарэсах, падтрымлівайце яго сяброўства з аднагодкамі.

– Абавязкова запрашайце да сябе сваіх **сяброў**. Як мужчын, так і жанчын. Яны могуць стаць для вашага дзіцяці добрымі суразмоўцамі. Сяброўства з дарослымі павышае дзіцячую самааацэнку.

– Адказвайце на пытанні **пра маму**. Паказвайце фота, расказвайце пра сумеснае жыццё.

– Паспрабуйце стварыць **новую сям'ю**. Важна спалучыць два інтарэсы: дзіцяці, каб яно было задаволенае мачахай, і свой асабісты. У ідэале, інтарэсы дзіцяці на першым месцы.

Любіце дзіця і любіце сябе. Тады і ваш сын ці дачка навучацца любіць вас і сябе.

Па псіхалагічную дапамогу можна звярнуцца па тэлефоне **(80176) 74-66-20** ці па адрасе: Маладзечна, вул. Таўлая, 4. Кансультацыі ананімныя і бясплатныя.

**Вольга МАЛАШКА,**
**псіхолаг Маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацабароны насельніцтва.**



ЭКАНОМІКА

# Зноў абяцаюць працу па званку – цяпер у Мядзеле

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

Месяц таму "РГ" пісала, як віляйчане знайшлі ў паштовай скрыні рэкламную лістоўку з прапановамі працаўладкавання. Патэлефанавалі па ўказаным нумары, але працу не знайшлі, а тэлефонны рахунак "пацяжэў" на 400 тысяч рублёў.

Цяпер такія лістоўкі з'явіліся ў Мядзеле. Таксама абяцаюць "больш за 1000 вакансій" – хоць вахтавым метадам, хоць падпрацоўкай дома. Толькі што зарплату ўжо ўказваюць не проста высокую, а да 20 мільёнаў рублёў.

Нумар тэлефона ў лістоўцы прывялі, а вось расцэнкі – не. Але на сайце Белтэлекама можна знайсці, што прадпрымальнік ацаніў паслугі даведачна-інфармацыйнай службы ў 41 тысячу рублёў за хвіліну.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АДУКАЦЫЯ

# Выгналі з аўдыторыі падчас ЦТ па беларускай мове праз тэлефоны

## Аднаго – у Маладзечне

Абітурыентаў заўважылі на парушэннях падчас тэставання, якое адбылося 14 чэрвеня ў 27 навучальных установах краіны.

У іх заўважылі мабільныя тэлефоны. Адзін з іх праходзіў тэст у Маладзечанскім політэхнічным каледжы, другі – у Брэсцкім дзяржаўным універсітэце.

Яшчэ двух абітурыентаў не дапусцілі да тэсту па стане здароўя. Але, у адрозненне ад тых, каго выгналі, яны змогуць напісаць тэст у рэзервовы дзень.

Усяго на ЦТ па беларускай мове зарэгістраваліся 24 021 удзельнік, з іх прыйшлі 23 180.

**Паведамляе Камітэт дзяржкантролю.**



ЭКАЛОГІЯ

# На Астравеччыне з'явіцца заказнік "Белы Мох"

АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ

Новы заказнік запланаваны і ў Ашмянскім раёне.

Пра гэта паведамляе Беларускі зялёны партал са спасылкай на "Гродненскую праўду".

Рашэннем аблвыканкама зарэзерваваная тэрыторыя ў Астравецкім раёне. Сёлета яе плануюць абвясціць заказнікам рэспубліканскага значэння "Белы Мох". Яе плошча каля 800 гектараў.

Новы заказнік запланаваны ў Ашмянскім раёне на плошчы 3,7 гектара. Меркаваная назва – "Мікулішкі".

**Паводле Greenbelarus.info.**


Фота Наталлі ТУР.

Гулец каманды "Маладзечна ДЮСШ 4" Сяргей Лавор (у цэнтры). Забіць мяч у гэтай гульні Сяргею так і не пашчасціла.

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# "Лік ужо на 15 хвіліне павінны быў быць 3:0"

## Трэнер ФК "Маладзечна ДЮСШ-4" Аляксандр Гармаза пра гульню з Рагачовам

МАЛАДЗЕЧНА

**У суботу, 13 чэрвеня, на гарадскім стадыёне адбыўся матч паміж камандамі Маладзечна і Рагачова.**

Гаспадары перамаглі з лікам 2:1. Пры гэтым усе тры забітыя мячы гледачам пашчасціла ўбачыць у першым тайме.

У маладзечанцаў вылучыліся **Сяргей Космач**, якому належыць першы гол, і **Цімафей Ігруша**, аўтар другога забітага мяча.

Але з трыбун чулася нараканне наконт нападаючых каманды "Маладзечна".

Па каментар мы звярнуліся да галоўнага трэнера каманды **Аляксандра Гармазы**:

– На суботнім матчы адбылася такая сітуацыя, што нам не хапіла двух нашых нападаючых – **Паўла Майсіёнка** не адпусцілі з работы, а **Аляксандр Парфёнаў** атрымаў траўму. Таму іх давялося "ляпіць з таго, што было".

Да таго ж, кажа Аляксандр Гармаза, на гульні каманды адбілася і стомленасць.

– Тры гульні сыграць за тыдзень – гэта не жарты. Я сказаў бы, што суботняя гульня была вельмі валідольная. Ужо праз 15 хвілін лік павінны быць ужо 3:0. Моманты стваралі, але не забівалі.

Маладзечанцы ж амаль забілі самі сабе праз неразбярыху ў абароне.

– Каб не стомленасць, – кажа Аляксандр Гармаза, – праблем у нашых сапернікаў было б значна больш. Ну, вынік мы паказалі. Тры ачкі зарабілі.

**Наталля ТУР.**

### Група А. 6 ТУР

| № | Каманда | Розніца галоў | Ачкі |
|---|---|---|---|
| 1 | **ФК "Ашмяны"** | 18-4 | 16 |
| 2 | **ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4"** | 13-2 | 16 |
| 3 | ФК "Вікторыя" | 12-6 | 13 |
| 4 | ФК "Жлобін" | 11-9 | 9 |
| 5 | ФК "Асіповічы" | 8-12 | 9 |
| 6 | ФК "Тарпеда" (Магілёў) | 10-9 | 9 |
| 7 | ФК Шклоў | 6-6 | 7 |
| 8 | ФК "Рагачоў-МК" | 3-8 | 4 |
| 9 | ФК "АК Ждановічы" | 3-12 | 2 |
| 10 | ФК "Прыазер'е" | 4-20 | 1 |

ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ

## Велапрабег прысвяцілі 70-годдзю Перамогі

АШМЯНЫ

12 чэрвеня аддзелам ідэалагічнай работы Ашмянскай мытні арганізаваны велапрабег "Мы ЗА Перамогу!", прысвечаны 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Мэта велапрабегу – нагадаць пра подзвігі воінаў, правесці ваенна-патрыятычную работу з моладдзю і прыцягнуць супрацоўнікаў мытні да здаровага ладу жыцця.

У ходзе правядзення заезду ўдзельнікі ўсклалі кветкі каля брацкай магілы ў Ашмянах, да помнікаў землякам, якія загінулі ў баях за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы ў 1941-1945 гадах у аграгарадках Кальчуны, Крэйванцы і вёсцы Будзёнаўка.

Гэты велапрабег стаў магчымасцю яшчэ раз ушанаваць памяць загінулых у гады Вялікай Айчыннай вайны, аддаць даніну памяці народу-пераможцу.

**Святлана ЧЫРКОВА, галоўны інспектар аддзела ідэалагічнай работы Ашмянскай мытні.**


Фота забяспечана Святланай ЧЫРКОВАЙ.

Удзельнікі велапрабегу, супрацоўнікі Ашмянскай мытні.

НАВІНЫ

### "Смаргонь" прайграла – выдалілі варатара

СМАРГОНЬ

Футбольны клуб "Смаргонь" дома 13 чэрвеня прымаў "Смалявічы СТГ".

– Гульня выдалася напружанай, – расказвае заўзятар "Смаргоні" **Арцём Войтка**. – Пасля фолу ў штрафной нашага варатара **Радзівона Жука** суддзя прызначыў пенальці і выдаліў галкіпера.

Гулец "Смалявічаў СТГ" па-майстэрску выканаў пенальці. Госці на 58-й хвіліне павялі ў ліку.

Праз шэсць хвілін у вароты "Смаргоні" ўляцеў яшчэ адзін гол.

– Нашы футбалісты кінуліся ў атаку. Але пасля зрэзкі абаронцы атрымалі аўтагол у свае вароты. Прайгралі 0:2, – дадае Арцём. – Парадаваў на матчы фан-сектар: было 52 чалавекі. Адзначу перфоманс фанатаў у памяць пра былога дырэктара футбольнага клуба "Смаргонь" **Станіслава Вацлававіча Юргеля.**

Станіслаў Юргель памёр на мінулым тыдні на 61-м годзе жыцця.

### Смаргонская "Вілія" стартавала перамогай

"Вілія" са Смаргоні 7 чэрвеня стартавала ў чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па футболе. Дома разграміла каманду з Мастоў 6:0.

– Упершыню з гэтай камандай гулялі, – дзяліцца гулец "Віліі" **Віталь Будай**. – Першы тайм мы 1:0 выйгралі. Валодалі гульнявой перавагай: за першы тайм сапернікі разы два, можа, і прабілі па варотах. А ў другім тайме яны фізічна здалі і атрымалі пяць галоў. І гэта яшчэ пенальці наш гулец не забіў.

У гэтыя выхадныя "Вілія" не гуляла.

### "Вілія" ўпусціла перамогу ў Нясвіжы

ВІЛЕЙКА

"Вілія" з Вілейкі сустракалася з ФК "Нясвіж". Віляйчане два разы вялі ў матчы, аднак гаспадары поля кожны раз зраўноўвалі лік. Апошні раз – за пару хвілін да канца матча. У віляйчан галы забілі **Арцём Ермакоў** і **Віктар Сяліцкі**.

"Вілія" пакуль выступае найлепш з камандаў рэгіёна. Ідзе на чацвертым месцы – ад першага яе аддзяляе толькі адно ачко. А камандам, што ідуць другімі і трэцімі, саступае толькі па розніцы мячоў.

"Вілія" – адзіная каманда ў чэмпіянаце, якая за шэсць тураў ні разу не прайграла (тры выйгрышы і тры нічые). Ды і прапусціла толькі пяць галоў – такім вынікам могуць пахваліцца яшчэ дзве каманды.

– Даўно так добра мы не стартавалі, – кажа прадстаўнік "Віліі" **Алег Гулевіч**. – Кожны год у нас адна задача напачатку сезона – захаваць футбол у Вілейцы. Рады, што пакуль гэта атрымліваецца зрабіць добра. Ёсць вынік, і гульня ёсць свая. Стараемся больш ад абароны гуляць, прапускаем мала. У камандзе хапае новых гульцоў. Напачатку яны падстройваліся пад каманду, але паступова згульваемся. І моладзь свая, вілейская, падцягваецца, той жа **Ваяводаў**.

### У фінале "Буддэталі" згуляюць з "Мехатронікай"

Другі паўфінал турніру па міні-футболе ў Вілейцы адбыўся 13 чэрвеня. "Рубін" сустракаўся з "Мехатронікай". Згулялі ўнічыю 2:2, а ў серыі пенальці мацнейшай была "Мехатроніка".

У фінале гэта каманда сустрэнецца з "Буддэталямі", паведаміў старшыня раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

### Вызначылі найлепшых мнагаборцаў

На гарадскім стадыёне 13 чэрвеня праходзілі спаборніцтвы па мнагаборстве "Здароўе" у межах круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў Вілейскага раёна.

Прынялі ўдзел дзесяць калектываў. Спаборнічалі яны у трох відах.

Перамагла каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму. На другім месцы – каманда ЖКГ, на трэцім – прадстаўнікі Энергазбыту.

Лепшымі мнагаборцамі сталі **Жанна Мароз** (Вілейкарайгаз) і **Андрэй Пільчук** (аддзел адукацыі, спорту і турызму). Пра гэта распавёў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" **Аляксандр Вайда**.

### ДЮСШ-4 і "Забудова-Буд" прайгралі

МАЛАДЗЕЧНА

Каманды з рэгіёна ў шостым туры чэмпіяната вобласці па футболе гулялі 14 чэрвеня ў гасцях.

ДЮСШ-4 з Маладзечна сустракалася з ФК "Старыя Дарогі" і прайграла 0:4.

"Забудова-Буд" зноў мінімальна саступіла. На гэты раз 1:2 камандзе "Беразіно". Гол у чысціцаў забіў **Драздовіч**.

Маладзечанцы ідуць сёмымі. "Забудова-Буд" – 12-й.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**Маладзечна святкуе "Выпускны-2015" (Фота)**
Вельмі круты рэпартаж, дзякуй. Шкада, што беларускай мовы не чуваць. ***Аж.***

**Лукашэнка дазволіў будаваць свінакомплексы на 100 тысяч галоў у Палачанах і Соўлаве**

Вельмі дзіўна атрымліваецца... Нібы і не было таго ранейшага абмеркавання з прыводам розных доказаў аб шматлікіх памылках і, мякка кажучы, вельмі танным праекце. Напрыклад, чаму не прадугледжаныя біягазавыя ўстаноўкі? Ці рабілі аналіз грунту?.. І некалькі слоў з тых каментаў спецыяліста: "улічваючы ўсе магчымыя наступствы, будаваць свінакомплексы па дадзеным праекце нельга. Праблема не толькі ў блізкім іх размяшчэнні ля вёсак і статысячнага горада. Зямля ўсяго Маладзечанскага раёна па сваім складзе не гатовая ўвабраць столькі адходаў. Свінакомплексы могуць парадзіць шмат экалагічных праблем, якія пасля ўжо немагчыма будзе вырашыць". ***Эва.***

**Ад выцінанкі да вышыўкі. У Вілейцы паказваюць працы вучняў і настаўнікаў гімназіі №2**

Вельмі спадабалася выстава, асабліва незвычайныя работы з папяровай лазы Самаль Алены. Яе работа патрабуе больш дэталёвага разгляду на сайце ці публікацыі ў газеце. ***Наталля.***

**Глядзіце фота Маладзечна і Хажова з вышыні 800 метраў**

*...Дык паглядзі ж, чалавеча*
*шаноўны, навокал,*
*Пільным позіркам праўдзе*
*у вочы паглядзі,*
*Як з вышынь блакітных*
*глядзіць той сокал,*
*Так і ты на край наш беларускі*
*паглядзі.*
*Бач, які краю наш, братка, вялікі*
*І багаты не толькі на адну*
*прыгажосць...*

Проста цудоўна. Павага ды пашана Зоі Хруцкай – той смелай дзяўчыне. Падзяка ёй за непаўторныя здымкі краявідаў, за іх прыгажосць. А я ўжо, мабыць, пастарэў, бо палохаць сталі вышыні. ***NPraw.***

**Не мямліце, не бойцеся – і экзамен пройдзе выдатна**

"Псіхолаг маладзечанскіх электрасетак" – нават у электрасетак ёсць свой псіхолаг, а ў мяне няма... ***Аж сумна стала.***

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма "**Вядзьмарка**" (Расія, з 16 год)
19, 20, 21 чэрвеня – у 18:00
24 чэрвеня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Чорнае мора**" (Вялікабрытанія, з 16 год)
19, 20, 21 чэрвеня – у 20:00
24 чэрвеня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Прыгоды Машы і Гошы**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
20, 21 чэрвеня – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, прыгоды "**Пінгвіняня Параро: Вялікія гонкі**" (3D, Паўднёвая Карэя, Кітай, без узроставых абмежаванняў)
19 чэрвеня – у 14:00
21 чэрвеня – у 12:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Свет Юрскага перыяду**" (3D, ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19 чэрвеня – у 18:30, 21:00
20, 21 чэрвеня – у 16:00, 18:30, 21:00
24 чэрвеня – у 20:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Захавальнік Месяца**" (3D, Іспанія, Аргенціна, без узроставых абмежаванняў)
20 чэрвеня – у 12:00
Цана білета – 30 000 рублёў
24 чэрвеня – у 14:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Камедыя "**Дабл трабл**" (2D, Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
20, 21 чэрвеня – у 14:00
Цана білета – 30 000 рублёў
24 чэрвеня – у 18:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | | | 8 | | | | | |
| | | 8 | | | | | | 5 |
| 9 | 5 | | 7 | | 6 | | | 8 |
| | 9 | | 3 | | | | 6 | |
| | | 1 | | | | 2 | | |
| | 7 | | | | 9 | | 5 | |
| 4 | | | 9 | | 1 | | 8 | 6 |
| 5 | | | | | | 3 | | |
| | | | | | 7 | | | 9 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.





## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, прыгоды "**Пінгвіняня Параро: Вялікія гонкі**" (3D, Паўднёвая Карэя, Кітай, 2015)
20 чэрвеня – у 12:40
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя, камедыя, сямейны "**Галаваломка**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
19 чэрвеня – у 19:50
20 чэрвеня – у 17:10 ( 55 000 рублёў)
21 чэрвеня – у 12:20 (30 000 рублёў)
21 чэрвеня – у 19:20 (55 000 рублёў)
23 чэрвеня – у 16:50 (30 000 рублёў)
24 чэрвеня – у 16:00 (30 000 рублёў)

Фантастыка, прыгоды "**Свет Юрскага перыяду**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
19 чэрвеня – у 22:00 (цана білета: 60 000 рублёў)
20, 21 чэрвеня – у 14:30 (30 000 рублёў)
20 чэрвеня – у 19:20
21 чэрвеня – у 21:30
22, 24 чэрвеня – у 18:20
23 чэрвеня – у 21:10
Цана білета: 55 000 рублёў)

Жахі "**Астрал 3**" (ЗША, Канада, з 16 год)
19 чэрвеня – у 17:40 (цана білета: 45 000 рублёў)
20 чэрвеня – у 22:00 (50 000 рублёў)
21 чэрвеня – у 17:10
22, 24 чэрвеня – у 21:00
23, 25 чэрвеня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, баявік "**Прыгажуні ў бягах**" (ЗША, 2015, з 16 год)
25 чэрвеня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Ваенная драма "**Снайпер. Апошні выстрал**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
25 чэрвеня – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**КіноДзяцінства. Мікраполіс**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
19, 25 чэрвеня – у 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**КіноДзяцінства. Дзень мядзведзя**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
20 чэрвеня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**КіноДзяцінства. Машыны казкі. Канёк-Горбунок у гасцях у казачніцы**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
21 чэрвеня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Олі і скарб піратаў**" (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
21 чэрвеня – у 16:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Кароль сафары**" (ПАР, 2013, без узроставых абмежаванняў )
22 чэрвеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Прыгоды "**Мост у Цэрабітыю**" (ЗША, 2006, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
24 чэрвеня – у 15:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Прэм'ера! Прыгоды "**Пуцёўка ў жыццё**" (Расія, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
20 чэрвеня – у 15:00
21 чэрвеня – у 18:30 (цана білета: 20 000 рублёў)
23 чэрвеня – у 16:00 (15 000 рублёў)

Камедыя "**Вясёлыя рабяты**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
19 чэрвеня – у 19:00
20 чэрвеня – у 21:00
22 чэрвеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Горад грахоў 2: Жанчына, дзеля якой варта забіваць**" (ЗША, 2014, з 18 год)
19, 21 чэрвеня – у 21:00
20 чэрвеня – у 19:00
23, 25 чэрвеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастыка "**Пасвечаны**" (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
24 чэрвеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

● ГАРАСКОП

## 25 ЧЭРВЕНЯ-2 ЛІПЕНЯ



**Авен.** Каб не адчуваць стомленасці, паклапаціцеся, каб вам хапала вітамінаў. Налягайце на буракі, моркву, квяцістую капусту, агуркі, яблыкі, фінікі, салату, цыбулю, бананы, грэцкія арэхі. Ваш арганізм павінны атрымліваць дастатковую колькасць жалеза.



**Цялец.** Ваша мэтанакіраванасць дапаможа дасягнуць немагчымага.



**Блізняты.** Пастарайцеся выконваць работу своечасова – гэта пазбавіць вас ад лішніх цяжкасцяў. Ваша працавітасць будзе заўважаная і ацэненая.



**Рак.** Памятайце, што сабака прыходзіць у дом да поспеху ў кар'еры, а кошка прыносіць з сабой любоў. Можа, вы і не хочаце заводзіць дома ніякай жывёлы, але ўсё ж задумайцеся.



**Леў.** Калі вам дрэнна – займіцеся генеральнай уборкай дома. І не бойцеся дызайнерскіх рашэнняў, бо змена звыклага інтэр'ера пойдзе на карысць.



**Дзева.** Могуць спатрэбіцца такія якасці, як спакой, разумнасць, вытрымка. Магчыма, калегі не заўсёды будуць пра вас самага лепшага меркавання, але да іх слоў не варта прыслухоўвацца ўсур'ёз.



**Шалі.** У вырашэнні любога пытання прыслухоўвайцеся да свайго сэрца, умейце пачуць, што "кажа" інтуіцыя, развівайце яе, і тады ў вас многія пытанні вырашацца самі па сабе.



**Скарпіён.** Ваша персона будзе прыцягваць да сябе павышаную ўвагу, вы можаце смела прымаць удзел у публічных выступленнях, яны прынясуць вам поспех і прызнанне.



**Стралец.** Можаце праявіць небывалую актыўнасць. Вырастуць адначасова і вашы запыты, і патрабаванні да сябе, galoўнае, каб не было прэтэнзій да навакольных.



**Казярог.** Будзьце цярплівыя і стрыманыя ва ўласных адносінах, бо спрэчкі і ўзаемныя крыўды адаб'юцца на іх не лепшым чынам. Сканцэнтруйцеся на вырашэнні практычных пытанняў – гэта выдатны спосаб забыць пра рознагалоссі. Памятайце, дапамагчы сабе вы зможаце толькі самі.



**Вадалей.** Чакаецца новае знаёмства. Ваша сэрца ўздрыгне! І не адпраўляйцеся ў доўгія паездкі, калі стаміліся ці не выспаліся.



**Рыбы.** Вучыцеся нейкі час расслабляцца і ні пра што не думаць. Ідэі, якія пасля прыходзяць, увасабляйце ў жыцці.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991-7155

Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасылаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

● НАДВОР'Е

## 20 чэрвеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +13 +19 | | +12 +21 | | +12 +21 | | +14 +23 | |
| | 737 | ↑ 1 | 739 | ↓ 3 | 740 | ↙ 4 | 740 | ↙ 7 |
| Вільня | +14 +16 | | +9 +16 | | +9 +18 | | +12 +19 | |
| | 746 | → 3 | 748 | ↘ 2 | 749 | ↓ 2 | 750 | ↓ 6 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.37
Захад 21.50
Даўжыня дня 17.13

Усход 9.00
Захад 23.47
Квадра 1

| Горад | Ноч | Дзень | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | +15 | +21 | 746 | ↘ 1 |
| Гродна | +9 | +19 | 748 | ↗ 2 |
| Мінск | +12 | +21 | 739 | ↓ 3 |
| Магілёў | +12 | +20 | 744 | ↙ 2 |
| Гомель | +16 | +21 | 747 | ↓ 5 |
| Брэст | +11 | +19 | 747 | → 2 |

● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

НАРАЧ (КУПА)

Мінімальная тэмпература +2,6 °С у 2000 годзе
Максімальная тэмпература +29,4 °С у 2013 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,3 мм у 1984 годзе
Назіранні за 22 гады (°С). Паводле meteoinfo.by

● ЭКАЛОГІЯ

# У Беларусі ў ТОП-10 самых брудных вадаёмаў і вадасцёкаў увайшла Уша

**Спецыялісты склалі ТОП-10 самых брудных і самых чыстых вадаёмаў і вадасцёкаў Беларусі.**

Як кажа намеснік начальніка Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Аляксандр Станкевіч**, якасны стан вадаёмаў у параўнанні з мінулымі гадамі істотна не змяніўся. Рака Свіслач з 2003 года лідзіруе ў дзясятцы самых брудных вадасцёкаў Беларусі.

Уваходзіць у ТОП-10 самых брудных вадаёмаў і вадасцёкаў рака Уша ніжэй Маладзечна.

А ў ТОП-10 самых чыстых з нашага рэгіёна ўвайшлі водныя экасістэмы азёр Нарачанскай групы, азёры Мядзел і Свір на Мядзельшчыне.

Паводле greenbelarus.info

● КУЛЬТУРА

## Вырабы з Вілейкі прывезлі ў Мядзел

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім музеі народнай славы праходзіць выстава Цэнтра эстэтычнага выхавання. Называецца яна "Вілейскі каларыт".

На выставе прадстаўленыя разнастайныя вырабы наведнікаў студый цэнтра: выцінанкі, лялькі, акварэлі...

– Юным наведнікам выставы найбольш падабаюцца мяккія цацкі, дарослым – арыгамі, – кажа галоўная захавальніца фондаў музея **Наталля Бурак**.

Працягнецца выстава да 30 чэрвеня.

## Лялькі паказваюць у бібліятэцы

Выстава аўтарскіх лялек "Асалода для душы" праходзіць у Мядзельскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Танка.

На ёй прадстаўленыя больш за 20 лялек. Стварыла іх педагог дадатковай адукацыі Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі **Галіна Дударава**.

Працягнецца выстава да жніўня, расказала загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі бібліятэкі **Ірына Цыгельнікава**.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Чытайце праз тыдзень:

- Сабраўся ў адпачынак за мяжу? Што і як сёлета можна перавозіць праз граніцу, каб не парушыць закон? Тлумачэнні мытнай службы.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 25 (1051) 19.06.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 816. Падпісана ў друк у 9.00 18.06.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.